Г. Л. Мураўёва, М. А. Урбан

# МАТЭМАТЫКА

Вучэбны дапаможнік для **4** класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай мовай навучання

У дзвюх частках

## Частка 1

*Дапушчана*
*Міністэрствам адукацыі*
*Рэспублікі Беларусь*

МІНСК
НАЦЫЯНАЛЬНЫ ІНСТЫТУТ АДУКАЦЫІ
2014

УДК 51(075.2=161.1)
ББК 22.1я71
М91

Р э ц э н з е н т ы:

дацэнт кафедры дашкольнай і пачатковай адукацыі ўстановы адукацыі «Віцебскі дзяржаўны ўніверсітэт імя П. М. Машэрава», канд. пед. навук, дац. *З. К. Ляўчук*;
метадычнае аб'яднанне настаўнікаў пачатковых класаў дзяржаўнай ўстановы адукацыі «Пачатковая школа № 103 г. Мінска» (настаўнік пачатковых класаў вышэйшай катэгорыі *В. В. Курыловіч*)

## Умоўныя абазначэнні:

— новы матэрыял;

— дружныя задачы;

— заданне на кемлівасць;

— адкажы на пытанне, выканай заданне;

— выканай дома;

— прачытай у раздзеле «Гэта цікава!»

**ISBN 978-985-559-370-7 (ч. 1)**
**ISBN 978-985-559-369-1**

## Змест


Паўтарэнне .................................................... 4

Нумарацыя мнагазначных лікаў ............................ 30

Складанне і адніманне .......................................... 88

Гэта цікава! ......................................................... 126







# Паўтарэнне

**1.** Колькі адзінак I, II, III разрадаў у ліку 236?



| сот. | дзяс. | адз. |
|---|---|---|
| 2 | 3 | 6 |



| сот. | дзяс. | адз. |
|---|---|---|
| 2 | 3 | 6 |

**2.** Зрабі рысункі па ўзоры. Запішы лікі. Павяліч кожны лік на 1, паменшы кожны лік на 1.



2 сот. 3 дзяс. 1 адз.

5 соц. 5 дзяс. 5 адз.
2 сот. 0 дзяс. 0 адз.
4 сот. 3 дзяс. 0 адз.
3 сот. 0 дзяс. 2 адз.

**3.** Устаў прапушчаныя лічбы так, каб няроўнасці былі правільныя.

2?4 < 224     48? > 486     ?63 > 825
38? > 388     ?57 < 291     94? < 943

**4.** Прачытай роўнасць, у якой лік прадстаўлены ў выглядзе сумы разрадных складаемых.

236 = 200 + 36     236 = 230 + 6
236 = 200 + 30 + 6     236 = 235 + 1

**5.** У пяці аднолькавых кватэрах 20 пакояў. Колькі пакояў у трох такіх кватэрах? На колькі больш пакояў у пяці такіх кватэрах, чым у трох такіх кватэрах?

**6.** Параўнай схемы. Рашы задачу.
Маса шасці аднолькавых пакетаў з цукрам 72 кг. У кожны пакет дасыпалі яшчэ па 8 кг цукру. Колькі кілаграмаў цукру стала ва ўсіх пакетах?

①



②



**7.** Састаў схему і задачу па выразе.

$$15 \cdot 3 + 20 \cdot 4$$

**?** Лік прадставілі ў выглядзе сумы разрадных складаемых 40, 2 і 500. Назаві гэты лік.

**1.** Знайдзі значэнні выразаў.

| | |
|---|---|
| 349 – 1 | 788 + 1 + 1 |
| 657 + 1 | 1000 – 1 – 1 |

**2.** З 96 м тканіны пашылі 16 касцюмаў. Колькі такіх касцюмаў можна пашыць з 84 м тканіны?

**1.** Знайдзі значэнні выразаў.

500 + 40 + 6 | 400 + 7 | 327 – 20 – 1
783 – 700 – 3 | 241 – 1 | 694 – 90 + 1

**2.** Колькі ўсяго дзясяткаў у ліках?

120 760 1000 831 694

**3.** Вылічы.

4 сот. + 2 сот. | 400 + 200
9 соц. – 5 соц. | 900 – 500
3 сот. + 7 соц. | 300 + 700
10 соц. – 1 сот. | 1000 – 100

**4.** Вылічы.

51 дзяс. + 25 дзяс. | 510 + 250
69 дзяс. – 12 дзяс. | 690 – 120
28 дзяс. + 72 дзяс. | 280 + 720
100 дзяс. – 36 дзяс. | 1000 – 360

**5.** Дапоўні.

600 м да 1 км | 710 м да 1 км
350 м да 400 м | 470 км да 700 км

**6.** Устаў прапушчаныя лікі, каб запісы былі правільныя.

1 м = 4 дм 6 см + ? см | 6 дм 1 см = 1 м – ? см
7 дм 9 см = ? см + 2 дм | 100 см = 7 дм + ? см

**7.** Рашы задачу. Складзі адваротныя задачы.

За 2 г сабака Мухтар прабег 42 км. З якой скорасцю бег Мухтар?

**8.** Якія выразы падыходзяць да задачы? Растлумач пры дапамозе схемы.

Ад адной кветкі ў супрацьлеглых напрамках папаўзлі мурашка і жук. Мурашка паўзла са скорасцю $a$ см/мін, а жук — са скорасцю $b$ см/мін. Якая адлегласць была паміж імі праз 5 мін?




| | | |
|---|---|---|
| $a : 7$ | $a \cdot 5 + b \cdot 5$ | $5 : b$ |
| $a \cdot 5$ | $(a + b) \cdot 5$ | $b \cdot 5$ |

**9.** Складзі і рашы задачу.

| Ёмістасць шклянкі, л | Колькасць шклянак, шт. | Ёмістасць усіх шклянак, л |
|---|---|---|
| 3 | 8 | аднолькавая |
| ? | 12 | |

Растлумач, як выканаць складанне і адніманне лікаў 480 і 250.

**1.** Знайдзі значэнні выразаў.

400 + 300    507 + 80    420 + 290

900 – 500    782 – 700    630 – 250

**2.** Веласіпедыст за 3 г праехаў 54 км. Якую адлегласць ён праедзе за наступныя 2 г, рухаючыся з той жа скорасцю?

**1.** Вылічы.

2 сот. · 3 — 200 · 3
9 соц. : 3 — 310 · 2
31 дзяс. · 2 — 900 : 3
64 дзяс. : 4 — 640 : 4
96 дзяс. : 16 — 960 : 16

| | |
|---|---|
| 2 сот. · 3 | 200 · 3 |
| 9 соц. : 3 | 310 · 2 |
| 31 дзяс. · 2 | 900 : 3 |
| 64 дзяс. : 4 | 640 : 4 |
| 96 дзяс. : 16 | 960 : 16 |

**2.** Знайдзі значэнні выразаў.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 140 · 5 | 3 · 160 | 450 · 2 | 720 : 36 |
| 840 : 2 | 990 : 3 | 7 · 120 | 550 : 11 |

**3.** Знайдзі значэнні выразаў.

| | | |
|---|---|---|
| 104 · 1 | 290 · 1 | 621 · 1 : 1 |
| 104 : 1 | 290 : 1 | 621 : 1 · 1 |
| 104 : 104 | 290 : 290 | 621 : 1 · 0 |

**4.** У шасці аднолькавых бляшанках з сіняй фарбай столькі ж кілаграмаў фарбы, колькі ў 4 аднолькавых бляшанках з жоўтай фарбай. Маса бляшанкі з сіняй фарбай 6 кг. Знайдзі масу бляшанкі з жоўтай фарбай.

**5.** Вылічы рознасць перыметраў вастравугольнага і тупавугольнага трохвугольнікаў.



**6.** Складзі задачы пра тое, як дзеці наведалі тэатр. Выкарыстай даныя табліцы.

| | 1-ы клас | 2-і клас | 3-і клас | 4-ы клас |
|---|---|---|---|---|
| Час у аўтобусе | 20 мін | 30 мін | 20 мін | ? |
| Час у глядзельнай зале | 80 мін | 120 мін | ? | 130 мін |
| Час у буфеце | 20 мін | ? | 15 мін | 25 мін |
| Час у гардэробе | 20 мін | 10 мін | 15 мін | 15 мін |
| Усе затраты часу | ? мін | 170 мін | 150 мін | 190 мін |

Растлумач, як падзяліць лік 360 на лік 2.
Растлумач, як падзяліць лік 360 на лікі 3 і 18.

**1.** Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| $200 : 1$ | $660 : 3$ | $440 \cdot 2 \cdot 1$ |
| $300 \cdot 1$ | $260 : 13$ | $310 \cdot 3 : 1$ |

**2.** Некалькі маршрутных таксі перавезлі 65 пасажыраў, па 13 пасажыраў у кожным таксі. Колькі пасажыраў можна перавезці, калі ў кожным таксі размясціць па 15 пасажыраў?

**1.** Растлумач вылічэнні.









**2.** Вылічы і растлумач.

446 + 312     159 + 432     714 – 78
547 – 233     652 – 336     97 + 546

**3.** Вылічы. Рэзультат вyразі ў сантыметрах.

3 м 6 дм 4 см + 2 м 3 дм 5 см
8 м 9 дм 4 см – 5 м 5 дм 4 см
8 м 67 см – 4 м 6 дм
6 м 44 см + 2 м 2 дм

**4.** Пастаў дужкі так, каб роўнасці былі правільныя.

320 – 150 – 70 = 240     430 – 160 + 80 = 350
560 + 400 – 120 = 840     640 – 280 + 140 = 220
710 – 150 – 180 = 380     800 – 600 – 230 = 430

**5.** Ад горада *A* да горада *B* поезд ехаў 4 г са скорасцю 90 км/г. Ад горада *B* да горада *C* поезд ехаў 3 г. Увесь шлях склаў 600 км. З якой скорасцю ехаў поезд ад горада *B* да горада *C*?

**6.** Рашы задачу. Складзі дзве адваротныя задачы.
Тры самазвалы прывезлі на будоўлю 21 т пяску пароўну кожны. Колькі тон пяску прывёз кожны самазвал?

**7.** Якая схема падыходзіць? Рашы задачу.
На працягу трох дзён рабочыя рамантавалі па 170 м дарогі штодзённа, а на працягу двух наступных дзён яны штодзённа рамантавалі на 50 м дарогі больш. Знайдзі даўжыню адрамантаванай часткі дарогі.

①


②


③


④


**8.** На складзе было 6 розных каробак з цукеркамі, маса якіх роўная 15 кг, 16 кг, 18 кг, 19 кг, 20 кг і 31 кг. Двое рабочых узялі пяць каробак. Маса каробак у першага рабочага аказалася ў 2 разы большая, чым у другога. Вызнач масу каробкі з цукеркамі, якая засталася на складзе.

Як трэба запісаць лікі 547 і 39 пры складанні ў слупок?

**1.** Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| 314 + 275 | 854 – 652 | 567 – 99 |
| 232 + 689 | 315 – 178 | 44 + 418 |

**2.** Катар плыў 2 г са скорасцю 35 км/г. Потым ён павялічыў скорасць на 3 км/г і плыў столькі ж гадзін. Які шлях пераадолеў катар?

# Урок 5

**1.** Растлумач вылічэнні.





**2.** Вылічы.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 113 · 3 | 214 · 3 | 254 · 3 | 368 · 2 |
| 264 : 2 | 525 : 3 | 279 : 3 | 425 : 5 |

**3.** Значэнне якога выразу большае?
На колькі большае?

- Здабытак лікаў 170 і 4 ці здабытак лікаў 4 і 180.
- Дзель лікаў 240 і 3 ці здабытак гэтых лікаў.
- Здабытак лікаў 72 і 6 ці дзель гэтых лікаў.
- Дзель лікаў 84 і 4 ці здабытак гэтых лікаў.
- Дзель лікаў 960 і 16 ці дзель лікаў 960 і 1.

**4.** Састаў выразы і знайдзі іх значэнні.

| Складаемае | 100 · 3 | 200 · 1 | 450 : 15 | 360 : 60 |
|---|---|---|---|---|
| Складаемае | 160 : 4 | 360 : 12 | 290 · 1 | 480 : 80 |

**5.** Дзве грузавыя фуры ў 6 г 30 мін выехалі са склада ў супрацьлеглых напрамках са скарасцямі 82 км/г і 78 км/г. На якой адлегласці адна ад адной будуць гэтыя фуры праз паўгадзіны? Праз 4 г?

**6.** Складзі і рашы задачу.

<table>
<tr><th>Маса адной скрынкі, кг</th><th>Колькасць скрынак, шт.</th><th>Маса ўсіх скрынак, кг</th></tr>
<tr><td>24</td><td>5</td><td rowspan="2">аднолькавая</td></tr>
<tr><td>30</td><td>?</td></tr>
</table>

**7.** Начарці прамавугольнік, у якога адна старана ў 2 разы карацейшая за другую.

**8.** Маса 3 кубкаў і бітона роўная масе 10 шклянак. Бітон ураўнаважвае 2 шклянкі і 1 кубак. Колькі шклянак ураўнаважаць бітон?

Чаму пры множанні ў слупок вылічэнні пачынаюць з разраду адзінак?

**1.** Вылічы.

$232 \cdot 2$ $324 \cdot 3$ $336 : 3$ $976 : 4$

**2.** На хлебазавод прывезлі 240 мяхоў мукі на 8 машынах. Колькі мяхоў мукі прывезлі на трох машынах, калі на кожную грузілі аднолькавую колькасць мяхоў?

**1.** Выканай дзяленне з астачай і праверку.

14 : 3 25 : 4 4 : 9 18 : 30

**2.** Устаў прапушчаныя лікі так, каб запісы былі правільныя.

? : 8 = 9 (аст. 7) 36 : ? = ? (аст. 2)

46 : ? = 5 (аст. ?) ? : ? = ? (аст. 4)

**3.** Вылічы.

$208 \cdot 4$ $2 \cdot 356$ 564 : 4 255 : 5

**4.** Знайдзі значэнні выразаў.

$222 : 3 \cdot 5$ $122 \cdot 7 - 279$ $1000 - 4 \cdot 234$

$625 : 5 \cdot 2$ $724 : 4 + 248$ $2 \cdot (225 + 199)$

$186 \cdot 4 : 6$ $831 - 369 : 9$ $(486 + 462) : 6$

**5.** Параўнай.

$1 \cdot 224$ ? 224 : 1 $816 \cdot 1 - 1$ ? $816 : 816 - 1$

$121 \cdot 1$ ? $121 \cdot 0$ $630 : 3 + 1$ ? $630 : 2 + 1$

**6.** Провад разрэзалі на 3 часткі. Даўжыня першай часткі 256 м, другая частка на 52 м даўжэйшая за першую, а трэцяя частка ў 2 разы карацейшая за другую. Якой даўжыні была трэцяя частка провада? Якой даўжыні быў увесь провад?

**7.** У двух аўтобусах ехала 78 чалавек. Калі з аднаго аўтобуса выйшла 15 чалавек, а ў другі аўтобус зайшло столькі ж чалавек, у аўтобусах стала пасажыраў пароўну. Колькі чалавек было ў кожным аўтобусе?

**8.** Дапоўні ўмову задачы лікавымі данымі, якія падыходзяць. Рашы задачу.
З дзвюх вёсак, адлегласць паміж якімі была …, насустрач адзін аднаму выехалі веласіпедыст і трактарыст. Веласіпедыст ехаў са скорасцю …, а трактарыст — са скорасцю … . Праз які час яны сустрэліся?

500 км | 17 км/г | 45 км | 190 км/г | 28 км/г

**9.** Назаві фігуры.




? Якія астачы могуць атрымацца пры дзяленні ліку на лік 7?

**1.** Выканай дзяленне з астачай і праверку.
19 : 5 73 : 9 94 : 4 13 : 20

**2.** Бацька і сын абкопвалі кусты маліны. Бацька за гадзіну абкопваў 5 кустоў, а сын — 3 кусты. Колькі часу яны павінны працаваць разам, каб абкапаць 24 кусты маліны?

# Урок 7

**1.** Колькі сантыметраў складае $\frac{1}{2}$ м? $\frac{1}{4}$ м? $\frac{1}{5}$ м?



**2.** Параўнай.

$\frac{1}{2}$ метра ? $\frac{1}{5}$ метра

$\frac{1}{5}$ метра ? $\frac{1}{4}$ метра

$\frac{1}{10}$ метра ? $\frac{1}{2}$ метра

$\frac{1}{10}$ метра ? $\frac{1}{5}$ метра

**3.** Якая з шакаладак самая цяжкая?

- Маса $\frac{1}{2}$ часткі шакаладкі «Алёнка» роўная 50 г.
- Маса $\frac{1}{4}$ часткі шакаладкі «Спартак» роўная 30 г.
- Маса $\frac{1}{5}$ часткі шакаладкі «Камунарка» роўная 40 г.

**4.** Знайдзі значэнні выразаў.

734 : 2 – 215 : 5

218 – (43 + 67) : 10

**5.** Састаў выразы і знайдзі іх значэнні.

| Памяншаемае | 1000 | 1000 | 612 : 2 | 1000 : 5 |
|---|---|---|---|---|
| Аднімаемае | 2 · 195 | 4 · 183 | 300 : 4 | 448 : 4 |

**6.** Бабуля спала трэцюю частку сутак. Колькі гадзін спала бабуля?

**7.** А якой гадзіне прачнулася бабуля, калі яна заснула ў 21 г 40 мін? Выберы гадзіннік, які паказвае гэты час.



**8.** Адна другая частка шляху аўтобуса роўная 200 км. Колькі гадзін спатрэбілася аўтобусу на ўвесь шлях, калі яго скорасць была 80 км/г?

**9.** На скавародзе месцяцца 2 катлеты. На падсмажванне катлеты з аднаго боку патрэбна 5 мін. Ці можна падсмажыць 3 катлеты за 15 мін?

Выберы правільны запіс.

$\frac{1}{4}$ м = 200 см

$\frac{1}{2}$ м = 5 дм

**1.** Вылічы.

810 : 9 – 630 : 9

(64 + 336) · 2

**2.** Прывезлі 6 каробак цукерак па 23 кг у кожнай. Трэцюю частку гэтых цукерак прадалі. Колькі кілаграмаў цукерак засталося прадаць?

# Урок 8

**1.** Знайдзі квадрат, плошча якога роўная аднаму квадратнаму сантыметру.



**2.** Вызнач плошчу кожнай фігуры ў квадратных сантыметрах.



**3.** Значэнне якога выразу большае? На колькі большае?

180 : 2 ці 270 : 9

560 : 7 ці 240 : 6

80 · 8 ці 7 · 90

1000 · 0 ці 1000 : 1

**4.** Знайдзі значэнні выразаў.

684 : 6 · 5 – 290

645 : 5 · 6 + 116

952 : 7 + (732 – 299)

237 · 3 – (1000 – 999)

**5.** Вылічы.

300 мін – 20 мін

130 мін + 60 мін

800 мін – 500 мін – 170 мін

230 мін + 770 мін – 900 мін

**6.** Састаў выразы. Знайдзі іх значэнні.

- Лік 284 памножылі на лік 2.
- Лік 14 павялічылі ў 5 разоў.
- Лік 568 падзялілі на лік 4.
- Лік 60 паменшылі ў 2 разы.

**7.** Ад кавалка кардону плошчай 125 $см^2$ адрэзалі пятую частку. Колькі квадратных сантыметраў кардону засталося?

**8.** Бібліятэцы патрэбна адрамантаваць 800 кніг. Адна майстэрня можа выканаць гэту работу за 4 дні, другая — за такі ж час. За колькі дзён майстэрні змогуць адрамантаваць кнігі, калі будуць працаваць разам?

**9.** Сяргей скачаў некалькі музычных кліпаў на 24 мін прагляду. Кожны кліп доўжыцца 2 мін. Міця скачаў столькі ж музычных кліпаў па 3 мін кожны. Колькі мінут можа глядзець свае кліпы Міця?

**10.** Начарці прамавугольнік, плошча якога роўная 6 $см^2$.

**?** Значэнне якіх велічынь вымяраюць ва ўказаных адзінках?

метр | гадзіна | квадратны сантыметр | кілаграм | літр

**1.** Вылічы.
550 : 5 · 3    856 : 4 · 3    262 : 2 · 7

**2.** Паміж дамамі Святланы і Вольгі 900 м. Дзяўчынкі выйшлі насустрач адна адной. Святлана прайшла $\frac{1}{6}$ частку ўсёй адлегласці, а Вольга — 150 м. Хто прайшоў большую адлегласць? Колькі метраў засталося прайсці дзяўчынкам да сустрэчы?

**1.** Растлумач, як вылічыць плошчу фігур з дапамогай палеткі.





**2.** Плошча якой наклейкі самая большая? Вызнач з дапамогай палеткі.



**3.** Выканай дзяленне з астачай і праверку.

50 : 9　　89 : 20　　230 : 50　　8 : 24

**4.** Знайдзі значэнні выразаў.

$439 \cdot 2 - 652 : 4$　　$285 : 3 + (804 - 269)$

$783 : 9 + 143 \cdot 5$　　$(900 - 248) : 2 \cdot 3$

**5.** Параўнай.

350 г + 460 г ? 1 кг　　1 кг – 650 г ? 150 г + 220 г

1 кг – 360 г ? 600 г　　1 кг – 990 г ? 670 г + 180 г

**6.** У школьнай бібліятэцы на кожнай паліцы змяшчаецца па 90 падручнікаў матэматыкі або па 70 падручнікаў беларускай мовы. На паліцах змясцілася 450 аднолькавых падручнікаў пароўну на кожнай. Якія падручнікі расставілі? Колькі паліц спатрэбілася?

**7.** Вася з'язджаў з гары 3 мін са скорасцю 250 м/мін. Лёша пайшоў у заклад, што можа з'ехаць з гары хутчэй. Выберы, з якой скорасцю павінен ехаць Лёша, каб выйграць спрэчку.

250 м/мін    270 м/мін    190 м/мін    6 м/с

**8.** Складзі і рашы задачу.

| Расход тканіны на 1 сукенку, м | Колькасць сукенак, шт. | Расход тканіны, м |
|---|---|---|
| 6 | аднолькавая | 96 |
| 4 | | ? |

З дапамогай палеткі вызначылі, што на паверхні фігуры змяшчаецца 5 поўных і 6 няпоўных квадратных сантыметраў. Чаму роўная плошча гэтай фігуры?

**1.** Знайдзі значэнні выразаў.
$374 + 425 - 445 : 5$        $1000 - 246 \cdot 4 : 8$

**2.** Знайдзі перыметр квадрата, калі даўжыня яго стараны роўная $\frac{1}{10}$ м.

**1.** Прачытай выразы. Прачытай роўнасці.

$133 + 240$ $\quad$ $133 + a + 200$ $\quad$ $133 + 240 = 373$

$450 \cdot 2 : 10$ $\quad$ $450 \cdot 2 : 10 = 90$ $\quad$ $450 \cdot b : 10$

**2.** Выпішы правільныя роўнасці.

$30 \cdot 7 = 480 - 270$ $\quad$ $1000 - 800 = 50 \cdot 5$

$240 + 250 = 7 \cdot 80$ $\quad$ $810 : 9 = 270 : 3$

**3.** Знайдзі значэнні выразу $251 - a : 70$, калі $a$ роўна $490$, $560$, $770$, $910$.

**4.** Састаў выразы.

- Лік 808 памножылі на невядомы лік.
- Невядомы лік павялічылі ў 50 разоў.
- Лік 565 падзялілі на невядомы лік.
- Невядомы лік паменшылі ў 20 разоў.

**5.** Крухмал складае адну пятую частку масы бульбы. Колькі кілаграмаў крухмалу змяшчаецца ў 185 кг бульбы? Колькі кілаграмаў бульбы спатрэбіцца для атрымання 185 кг крухмалу?

**6.** Дапоўні табліцу. Складзі і рашы задачу.

| Колькасць гадзін у 1 сутках | Колькасць сутак | Колькасць гадзін ва ўсіх сутках |
|---|---|---|
| ■ | 6 | ? |
| ■ | 3 | ? |

(агульная колькасць гадзін — ?)

**7.** Колькі мінут складаюць:

$\frac{1}{4}$ частку гадзіны; $\frac{1}{3}$ частку гадзіны;

$\frac{1}{2}$ частку гадзіны; $\frac{1}{10}$ частку гадзіны?

**8.** Прачытай паказанні гадзіннікаў з дапамогай слоў «палова», «чвэрць».




**9.** Дзіма хоча пасля школы вывучыць урокі, вымыць пасуду, пагуляць у футбол і пачытаць. У якой паслядоўнасці Дзіма можа зрабіць гэтыя справы, калі спачатку будзе вучыць урокі?

Састаў роўнасць і выраз, выкарыстоўваючы лікі 200, 300 і 500.

**1.** Знайдзі значэнні выразаў $a \cdot 127$ і $960 : a$ пры $a$, роўным 2, 4, 5.

**2.** Дзевятнаццаць вагонаў таварнага поезда — гэта трэцяя частка ўсяго саставу. Колькі вагонаў у гэтым таварным поездзе?

**1.** Растлумач рашэнне ўраўненняў.

$a + 250 = 1000$
$a = 1000 - 250$
$\underline{a = 750}$
$750 + 250 = 1000$

$560 : c = 80$
$c = 560 : 80$
$\underline{c = 7}$
$560 : 7 = 80$

**2.** Састаў і рашы ўраўненні.

- Лік 130 памножылі на невядомы лік і атрымалі 910.
- Невядомы лік павялічылі на 386 і атрымалі 821.
- Ад ліку 672 аднялі невядомы лік і атрымалі 302.
- Лік 620 падзялілі на невядомы лік і атрымалі 2.

**3.** Рашы ўраўненні.

$749 : x = 1$
$x \cdot 172 = 172$

$x : 385 = 0$
$408 \cdot x = 0$

**4.** Прачытай задачу. Растлумач, што абазначаюць выразы. Рашы задачу пры $c$, роўным 8.
У сераду ў магазін заходзіла 60 чалавек, у чацвер — на $c$ чалавек менш, а ў пятніцу — у 2 разы больш, чым у чацвер. Колькі чалавек было ў магазіне ў пятніцу?

$60 - c$  $60 + (60 - c)$  $(60 - c) \cdot 2$

**5.** З кожных 6 кідкоў Дзяніс пападае ў баскетбольную карзіну 2 разы. Колькі разоў Дзяніс пападзе ў карзіну, калі ён зробіць 30 кідкоў?

**6.** Здагадайся, які час паказваюць гадзіннікі? На якіх цыферблатах вугал паміж гадзіннай і мінутнай стрэлкамі востры?



**7.** Колькі розных пар дзяцей можна саставіць?




Закончы сказ.
«Рашыць ураўненне — значыць знайсці такое значэнне пераменнай, пры якім…».

**1.** Рашы ўраўненні.

$a - 349 = 651$ $\qquad$ $y \cdot 90 = 720$ $\qquad$ $z : 8 = 80$

**2.** У Кастуся 32 салдацікі, а ў Віці — 46. Колькі салдацікаў Віця павінен даць Кастусю, каб салдацікаў у хлопчыкаў стала пароўну?

# Урок 12

**1.** Прачытай няроўнасці.

$556 + 4 = 560$ $556 + 4 – 560$ $556 + 14 > 560$
$170 + a = 190$ $170 + a < 190$ $170 + a + 190$

**2.** Выкарыстоўваючы лікі ад 0 да 8, састаў усе правільныя няроўнасці.

$42 \cdot c < 280$ $120 \cdot y > 700$
$100 + p < 105$ $246 - x > 240$

**3.** Знайдзі найбольшае значэнне пераменнай $a$, пры якім няроўнасці будуць правільныя.

$32 > a + 15$ $29 + a < 41$ $a \cdot 5 < 73$

**4.** Знайдзі значэнні выразаў.

| $c$ | 111 | 123 | 135 | 243 |
|---|---|---|---|---|
| $c \cdot 2 + 150$ | ? | ? | ? | ? |
| $c : 3 - 10$ | ? | ? | ? | ? |

**5.** Дапоўні ўмову задачы. Рашы задачу.
Смоўж можа паўзці са скорасцю … см/мін. Колькі сантыметраў прапаўзе ён за гадзіну? За 2 гадзіны?



**6.** З шоўку пашылі 25 сарафанаў, расходуючы па 3 м тканіны на кожны. Колькі сукенак можна было пашыць з гэтага кавалка шоўку, калі на кожную сукенку ідзе 5 м тканіны?

**7.** Складзі па табліцы задачу. Параўнай з задачай 6.

<table>
<tr><th>Маса<br>1 пачка, кг</th><th>Колькасць<br>пачкаў, шт.</th><th>Маса ўсіх<br>пачкаў, кг</th></tr>
<tr><td>3</td><td>25</td><td rowspan="2">аднолькавая</td></tr>
<tr><td>5</td><td>?</td></tr>
</table>

**8.** Для дзіцячага сада купілі 5 скрынак яблыкаў па 24 кг у кожнай. З адной шостай часткі яблыкаў зварылі кампот, а астатнія яблыкі раздалі дзецям на полудзень. Колькі кілаграмаў яблыкаў раздалі дзецям?

**9.** Сума двух лікаў роўная 954, а іх рознасць — 158. Знайдзі гэтыя лікі.

Састаў няроўнасці, выкарыстоўваючы лікі 40, 50, 90.

**1.** Выкарыстоўваючы лікі ад 200 да 210, састаў усе правільныя няроўнасці.

$2 \cdot a < 405$ $\qquad$ $1 \cdot c > 208$ $\qquad$ $66 + x < 269$

**2.** Бяроза жыве 250 гадоў. Гэта складае $\frac{1}{4}$ частку працягласці жыцця дуба. На колькі гадоў даўжэй жыве дуб, чым бяроза?

**1.** Састаў і рашы ўраўненні.

- 12 дзясяткаў паменшылі на невядомы лік і атрымалі 6 дзясяткаў.
- Невядомы лік паменшылі на 10 дзясяткаў і атрымалі 7 соцень.
- Невядомы лік павялічылі на 34 дзясяткі і атрымалі 10 соцень.

**2.** Знайдзі значэнні выразу $234 + a : 50$, калі $a$ роўна 350, 550, 600, 850.

**3.** Пры якім найбольшым значэнні пераменнай няроўнасці будуць правільныя?

$2 \cdot x < 805$ $409 > 1 \cdot x$ $x - 200 < 204$

**4.** • Выразі ў дэцыметрах.

100 см 300 см 500 см 600 см

• Выразі ў сантыметрах.

4 м 3 дм 7 см 1 м 8 дм 4 м 6 см

**5.** Для падключэння 5 тэлевізараў патрэбна 15 м электрычнага шнура, пароўну на кожны тэлевізар. Ці хопіць 400 м электрычнага шнура, каб падключыць 134 тэлевізары?

**6.** У магазіне было 50 двухлітровых слоікаў з яблычным сокам і столькі ж трохлітровых слоікаў з таматным сокам. Якога соку было больш? На колькі літраў больш?

**7.** Ад адной кветкі ў супрацьлеглых кірунках папаўзлі дзве божыя кароўкі і праз 3 с спыніліся. На якой адлегласці яны апынуліся адна ад адной, калі скорасць адной з іх была 2 см/с, а другой — 3 см/с?

**8.** На плане паказана, як дайсці ад станцыі да дачнага доміка. Увесь маршрут — 1000 м. Які план правільны, калі 1 см на плане абазначае 100 м дарогі?







Састаў ураўненне, выкарыстоўваючы лічбы 40, 80 і літару $x$.

**1.** Знайдзі значэнні выразу $2 \cdot a : 5$ пры $a$, роўным 405, 420, 165.

**2.** Заапарк за адзін дзень наведала 375 чалавек. З іх было 226 дарослых, а школьнікаў у 2 разы менш, чым дарослых. Астатнія наведвальнікі — дашкольнікі. Колькі дашкольнікаў наведала заапарк?

# Нумарацыя мнагазначных лікаў

Разгледзь **на абаках**, як атрымліваецца **тысяча, дзясятак тысяч**. Растлумач, як атрымліваецца **сотня тысяч** і **мільён**.







Параўнай лікі **дзвесце сорак тры** і **дзвесце сорак тры тысячы**.

| Разрады | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Сотні тысяч | Дзясяткі тысяч | Адзінкі тысяч | Сотні | Дзясяткі | Адзінкі |
| VI | V | IV | III | II | I |
| | | | 2 | 4 | 3 |
| 2 | 4 | 3 | | | |

10 адзінак тысяч утвараюць **дзясятак тысяч**.
10 дзясяткаў тысяч утвараюць **сотню тысяч**.
10 соцень тысяч утвараюць **мільён**.

**1.** Запішы лікі.

тысяча дзесяць тысяч сто тысяч мільён
дваццаць тысяч сто дваццаць тры тысячы
чатырыста пяць тысяч

**2.** Прачытай лікі.

145 000 987 000 236 000 99 000

Назаві, колькі ў гэтых ліках адзінак VI разраду, V разраду, IV разраду.

**3.** Вылічы.

$3 \cdot 330 + 10$ $400 + 600 - 1$ $700 + 300 - 1000 : 2$

**4.** Тата гуляў з сабакам 1 г 30 мін. Трэцюю частку гэтага часу тата затраціў на дарогу да парку і назад, а астатні час правёў з сабакам у парку. Колькі часу тата правёў з сабакам у парку?

**5.** З Мінска і Гродна адначасова насустрач адзін аднаму выехалі аўтобус і грузавік і праз 2 г сустрэліся. Знайдзі адлегласць паміж Мінскам і Гродна, калі скорасць аўтобуса была 80 км/г, а скорасць грузавіка на 20 км/г меншая.

**?** Што абазначае лічба 8 у запісе лікаў?

18 000 824 000 384

**1.** Вылічы.

$63 : 9 + 100 \cdot 5$ $900 : 3 - 320 : 40$

**2.** Каб зрабіць рамонт у доме, купілі 880 дошак. Палова дошак пайшла на рамонт падлогі ў пакоях, а 120 дошак — на рамонт падлогі ў кухнях. Колькі дошак засталося?

! Прачытай лікі, запісаныя ў **табліцы класаў і разрадаў**.

| **II клас — клас тысяч** | | | **I клас — клас адзінак** | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Сотні тысяч | Дзясяткі тысяч | Адзінкі тысяч | Сотні | Дзясяткі | Адзінкі |
| | | | 6 | 2 | 5 |
| 6 | 2 | 5 | 0 | 0 | 0 |

Адзінкі, дзясяткі і сотні складаюць **першы клас**, або **клас адзінак**.
Адзінкі тысяч, дзясяткі тысяч і сотні тысяч складаюць **другі клас**, або **клас тысяч**.

**1.** Прачытай лікі.

546 000 324 000 758 000 203 000

Назаві разрады, якія складаюць другі клас; першы клас.

Разважай так:
1. У ліку 546 000 змяшчаецца 5 соцень тысяч, 4 дзясяткі тысяч, 6 адзінак тысяч. Гэтыя разрады складаюць клас тысяч.
2. У ліку 546 000 запісаны тры нулі ў класе адзінак. Гэта азначае, што ў ліку адсутнічаюць адзінкі першага класа.

**2.** Назаві па тры лікі, якія ідуць за лікамі: 100, 1000, 10 000, 100 000.

**3.** Запішы лікі. Назаві класы і разрады.

2 сот. тыс. 4 дзяс. тыс. 5 дзяс. тыс. 3 адз. тыс.

**4.** Параўнай.

52 дзяс. ? 520 адз. 800 адз. ? 1 тыс.
2 адз. тыс. ? 100 дзяс. 10 соц. ? 100 адз.

**5.** Параўнай выразы ў кожным радку. Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| 5 + 3 | 5000 + 3000 | 50 000 + 30 000 |
| 9 – 6 | 9000 – 6000 | 900 000 – 600 000 |
| 4 · 2 | 4000 · 2 | 40 000 · 2 |
| 6 : 3 | 6000 : 3 | 600 000 : 3 |

**6.** Турысты хочуць наведаць горад Заслаўе і вёску Дудуткі. Адлегласць ад Мінска да Заслаўя роўная пятай частцы ад сотні кіламетраў. Знайдзі адлегласць ад Мінска да Дудутак, калі вядома, што яна ў 2 разы большая за адлегласць ад Мінска да Заслаўя.

**7.** Прывезлі 2 машыны бульбы па 3 т на кожнай. Гэта складае $\frac{1}{4}$ частку бульбы, якую трэба прывезці. Колькі тон бульбы трэба прывезці?

? Назаві разрады класа адзінак і класа тысяч.

**1.** Вылічы.

| | | |
|---|---|---|
| 99 + 1 + 1 | 145 · 3 | 672 : 6 |
| 999 + 1 + 0 | 205 · 2 | 861 : 7 |

**2.** Турыстычны аўтобус ехаў да прыпынку 5 г са скорасцю 72 км/г. Гэта склала $\frac{1}{3}$ усяго шляху. Якую адлегласць павінен быў праехаць турыстычны аўтобус?

!

Як прачытаць лік?

137264

Разважай так:

1. Выдзелю ў ліку класы адзінак і тысяч.

137 264

2. Спачатку трэба назваць колькасць адзінак другога класа — класа тысяч.

сто трыццаць сем тысяч

3. Затым трэба назваць колькасць адзінак першага класа — класа адзінак.

дзвесце шэсцьдзясят чатыры

4. Чытаю лік:

сто трыццаць сем тысяч дзвесце шэсцьдзясят чатыры

**1.** Прачытай лікі.

712345 203550 40600 54001 245809

**2.** Назаві па тры лікі, якія папярэднічаюць лікам: 300, 3000, 30 000, 300 000.

**3.** Вылічы.

7000 · 2 + 1

21 000 : 3 · 1

(50 000 + 40 000) : 3

(800 000 – 600 000) · 2

**4.** Спартыўны магазін атрымаў 960 пар красовак. Дзіцячых мадэлей было ў 3 разы больш, чым мадэлей для дарослых. Колькі пар дзіцячых красовак атрымаў магазін?

**5.** Вызнач па табліцы, колькі кілаграмаў розных фруктаў было ў магазіне. На колькі кілаграмаў больш было груш, чым ківі? У колькі разоў менш засталося сліў, чым было іх прададзена?

| | Яблыкі, кг | Грушы, кг | Слівы, кг | Ківі, кг | Персікі, кг |
|---|---|---|---|---|---|
| Прадалі | 600 | 640 | 540 | 320 | 250 |
| Засталося | 120 | 360 | 180 | 160 | 100 |

**6.** Назаві вострыя, прамыя, тупыя вуглы.






Прачытай лікі: 2315; 23405; 125500.



**1.** Вылічы.

900 : 9 + 1      9000 : 9 · 1      90 000 : 9 : 1

**2.** У школьным музеі народных рамёстваў 476 экспанатаў. Адну сёмую частку ўсіх экспанатаў прынеслі бацькі, а астатнія сабралі самі школьнікі. Колькі экспанатаў сабралі школьнікі?

Як запісаць лік?

трыста адна тысяча дваццаць чатыры

Разважай так:

1. Спачатку трэба запісаць, колькі адзінак другога класа — класа тысяч — змяшчаецца ў ліку.

| 3 | 0 | 1 | | | |
|---|---|---|---|---|---|

2. Потым трэба запісаць, колькі адзінак першага класа — класа адзінак — змяшчаецца ў ліку.

| 3 | 0 | 1 | 0 | 2 | 4 |
|---|---|---|---|---|---|

3. Атрымліваю запіс ліку:

301 024

**1.** Запішы лікі.

шэсцьсот дваццаць чатыры тысячы пяцьсот дваццаць пяць

трыста дваццаць адна тысяча шэсцьсот чатыры

пяцьсот восем тысяч трыццаць чатыры

**2.** Запішы і параўнай лікі, паказаныя на абаках. У колькі разоў адзін лік большы за другі?

①  ②  ③ 

Дзесяць адзінак любога разраду складаюць адну адзінку наступнага разраду.

Кожная адзінка наступнага разраду ў дзесяць разоў большая за адзінку папярэдняга разраду.

**3.** Параўнай.
5 тыс. · 10 ? 5 дзяс. тыс.
9 дзяс. тыс. · 10 ? 8 соц. тыс.
3 дзяс. тыс. : 10 ? 4 сот. · 10
2 дзяс. тыс. · 10 ? 2 сот. тыс. : 10

**4.** Вылічы.
67 кг + 33 кг
6 г 12 мін – 120 мін
24 дм 3 см – 1 м 3 см
130 мін – 2 г 5 мін

**5.** Запішы і прачытай лікі, якія атрымаюцца, калі пару лічбаў 2 і 3 запісаць запар два разы, тры разы.

**6.** Маса двух пачкаў масла роўная масе аднаго пачка масла і двух пачкаў плаўленых сыркоў. Маса пачка масла 400 г. Знайдзі масу пачка плаўленага сырка.

**7.** Складзі і рашы задачу.

| | Расход тканіны на 1 выраб, м | Колькасць вырабаў, шт. | Увесь расход тканіны, м |
|---|---|---|---|
| Сукенкі | 4 | 12 | аднолькавы |
| Плашчы | 6 | ? | |

Запішы лік, у якім 200 адзінак другога класа і 200 адзінак першага класа.

**1.** Знайдзі значэнні выразаў.
844 – 152 · 3
(154 + 318) : 2
4 · (555 – 378)

**2.** Калі чатыры дзясяткі літраў вады разлілі ў 15 аднолькавых збаноў, засталося 10 л вады. Колькі літраў вады ўмесціцца ў 10 такіх збаноў?

① Лік 4312 складаецца з:

4 тысяч, 3 соцень, 1 дзясятка і 2 адзінак.

Лік 4312 можна прадставіць у выглядзе сумы разрадных складаемых:

$$4312 = 4000 + 300 + 10 + 2.$$

② Лік 50 401 складаецца з:

5 дзясяткаў тысяч, 4 соцень і 1 адзінкі.

Лік 50 401 можна прадставіць у выглядзе сумы разрадных складаемых:

$$50\,401 = 50\,000 + 400 + 1.$$

**1.** Запішы лікі. Прадстаў іх у выглядзе сумы разрадных складаемых.

- 9 тысяч 3 сотні 7 дзясяткаў 2 адзінкі.
- 9 соцень тысяч 6 адзінак тысяч 3 сотні 1 адзінка.
- 3 дзясяткі тысяч 3 адзінкі тысяч 5 соцень 2 дзясяткі.
- 2 тысячы 1 сотня 4 дзясяткі 4 адзінкі.

**2.** Прадстаў лікі ў выглядзе сумы разрадных складаемых.

56 894 209 407 3620 790 123

**3.** Знайдзі значэнні выразаў.

$2000 + 200 + 30 + 1$

$100\,000 + 80\,000 + 30$

$50\,000 + 7000 + 90$

$600\,000 + 6000 + 6$

**4.** Вылічы.

$197 \cdot 5$  $226 \cdot 4$  $684 : 9$  $736 : 4$

**5.** З пад'езда дома выйшлі Таня і Іван і пайшлі ў супрацьлеглых напрамках. Скорасць Тані была 80 м/мін, а скорасць Івана — на 5 м/мін меншая. На якой адлегласці адно ад аднаго будуць дзеці праз 5 мін?

**6.** Складзі і рашы задачу. Складзі і рашы адваротную задачу.

<table>
<tr><th>Наведвальнікаў за адным столікам</th><th>Колькасць столікаў</th><th>Усяго наведвальнікаў</th></tr>
<tr><td>4</td><td rowspan="2">аднолькавая</td><td>20</td></tr>
<tr><td>?</td><td>30</td></tr>
</table>

**7.** Назаві трохзначныя лікі, сума лічбаў якіх роўная: 1; 2; 3.

Вызнач разрадны састаў ліку 777 777.
Прадстаў гэты лік у выглядзе сумы разрадных складаемых.

**1.** Параўнай.

20 000 + 70 ? 700 + 20 000

2000 + 200 + 2 ? 2000 + 20 + 2

**2.** Дзве стараны трохвугольніка маюць аднолькавую даўжыню, роўную 60 дм. Перыметр трохвугольніка 1600 см. Знайдзі даўжыню трэцяй стараны.

**!** Растлумач, як выканаць параўнанне лікаў з аднолькавай колькасцю разрадаў.

**6**34 671 > **5**34 671 | 534 **5**71 < 534 **6**71

5**4**4 671 > 5**3**4 671 | 534 6**3**1 < 534 6**7**1

53**5** 671 > 53**4** 671 | 534 67**0** < 534 67**1**

Два лікі з аднолькавай колькасцю разрадаў параўноўваюцца паразрадна, пачынаючы з вышэйшага разраду.

Растлумач, як выканалі параўнанне лікаў з рознай колькасцю разрадаў.

23 564 > 3546

З двух лікаў з рознай колькасцю разрадаў большы той лік, у якім разрадаў больш.

**1.** Параўнай лікі.

2347 ? 3247 | 30 000 ? 29 990

534 177 ? 535 177 | 3780 ? 2456

40 000 ? 35 000 | 999 991 ? 991 991

**2.** Параўнай лікі.

6521 ? 624 350 | 5670 ? 27 456

3671 ? 78 902 | 93 487 ? 9487

78 000 ? 187 000 | 4598 ? 98 478

**3.** Перадача «Навіны» закончылася ў 20 г 45 мін, а пачалася паўгадзіны таму назад. А якой гадзіне пачалася перадача?

**4.** Ка́цінаму дзядулю 60 гадоў. Ён у 2 разы старэйшы за Кацінага бацьку. У колькі разоў Каця маладзейшая за свайго тату, калі ёй 10 гадоў?

**5.** Начарці прамавугольнік, даўжыня адной стараны якога роўная $\frac{1}{4}$ частцы даўжыні другой стараны. Абазнач прамавугольнік лацінскімі літарамі.

**6.** У першым ба́ку было на 20 л вады больш, чым у другім. У кожны бак далілі яшчэ па 15 л вады. У якім баку вады стала больш? На колькі літраў больш?

**7.** Падумай, павялічыцца ці паменшыцца адказ да задачы 6, калі ў першы бак увальюць 15 л вады, а ў другі бак — 10 л вады.

**?** Назаві лікі ў парадку ўзрастання.

34 509    34 590    345 090    345 009

**1.** Параўнай.

20 305 – 1 ? 1 + 20 302

308 308 + 1 + 1 ? 308 312 – 1 – 1

**2.** Мультфільм пачаўся ў 15 г 12 мін, а закончыўся праз чвэрць гадзіны. Пасля мультфільма паказалі пяцімінутны рэкламны ролік. А якой гадзіне закончыўся мультфільм? А якой гадзіне закончыўся рэкламны ролік?

## Урок 20

**1.** Сярод лікаў 24 356, 32 654, 65 432, 45 263 знайдзі лік, у якім лічба 2 запісана ў разрадзе:

соцень | дзясяткаў тысяч | соцень тысяч

**2.** Вызнач разрадны састаў лікаў. Прадстаў лікі ў выглядзе сумы разрадных складаемых.

835 124 | 901 019 | 3749 | 40 072

**3.** Назаві ўсе шасцізначныя лікі, якія:
- меншыя за лік 100 005;
- большыя за лік 999 996.

**4.** Параўнай.

27 653 ? 27 635     132 290 ? 132 209

54 029 ? 55 029     806 347 ? 806 346

**5.** Устаў прапушчаныя лічбы так, каб атрымаліся правільныя няроўнасці.

9*3 504 < 913 504     1500 > *499

**6.** Запішы лік, які:
- большы за лік 28 976 і заканчваецца лічбай 1;
- меншы за лік 325 043 і заканчваецца лічбай 9.

**7.** За тры дні цеплаход праплыў 1000 км. У другі дзень ён праплыў на 140 км больш, чым у першы, а ў трэці дзень — на 150 км больш, чым у другі. Колькі кіламетраў праплыў цеплаход у першы дзень?

**8.** Прывезлі 4 скрынкі з абрыкосамі па 30 кг у кожнай і столькі ж скрынак з персікамі па 25 кг у кожнай. Якіх фруктаў прывезлі больш? На колькі кілаграмаў больш?

**9.** Гадзінная стрэлка на гадзінніку адпала. На малюнках паказана, што ўбачыў Віні-Пух на гадзінніку, калі прыйшоў да сябра ў госці і калі адыходзіў дадому. Віні-Пух гаворыць: «Здаецца, я быў у гасцях у сябра паўтары гадзіны». Ці так гэта?





**1.** Параўнай.

380 129 ? 381 029 384 513 ? 348 153
52 002 ? 520 300 340 108 ? 92 008

**2.** Майстар можа за 3 гадзіны работы адрамантаваць 18 крэсел, а вучань майстра за той жа час рамантуе 9 крэсел. Колькі крэсел яны могуць адрамантаваць разам за 5 г?

**1.** Вылічы па ўзоры.

5600 + 2100 = 56 соц. + 21 сот. = 77 соц. = 7700

3100 + 2600　　6200 + 700　　4800 + 3700
9400 – 7300　　5900 – 400　　7200 – 4600

**2.** Вылічы па ўзоры.

32 000 + 22 000 = 32 тыс. + 22 тыс. = 54 тыс. = 54 000

45 000 + 22 000
62 000 + 12 000
46 000 – 11 000
17 000 + 21 000
48 000 – 31 000
37 000 – 32 000

**3.** Вылічы па ўзоры.

290 000 – 140 000 = 29 дзяс. тыс. – 14 дзяс. тыс. =
= 15 дзяс. тыс. = 150 000

660 000 – 320 000
230 000 + 770 000
460 000 + 320 000
570 000 – 210 000
230 000 + 210 000
1 000 000 – 300 000

**4.** Рашы ўраўненні.

20 000 + $x$ = 25 000
$a$ + 390 000 = 600 000
78 000 – $y$ = 8000
$c$ – 47 000 = 24 000

**5.** На складзе было 60 т грузу. Спачатку вывезлі $\frac{1}{4}$ частку грузу, а потым — яшчэ 15 т. Колькі тон грузу вывезлі? Колькі засталося вывезці?

**6.** Хлопчыкі хочуць запісаць на дыск 5 мультфільмаў, кожны з якіх доўжыцца 15 мін, 48 мін, 22 мін, 10 мін, 55 мін. Ці змесцяцца ўсе мультфільмы на дыск, калі на ім засталося свабоднага месца на 2 гадзіны?

**7.** З трох прамавугольнікаў з даўжынямі старон 5 дм і 20 см саставілі прамавугольнік так, як паказана на рысунку. Вылічы перыметр фігуры, якая атрымалася.



**8.** Маса 3 скрынак з яблыкамі і 8 скрынак з мандарынамі роўная 171 кг, а маса 3 скрынак з яблыкамі і 5 скрынак з мандарынамі — 135 кг. Знайдзі масу адной скрынкі з мандарынамі і масу адной скрынкі з яблыкамі.

Растлумач вылічэнні: 3400 + 5000; 570 000 – 120 000.

**1.** Знайдзі значэнні выразаў.

2500 + 5300 51 000 – 17 000
4100 – 900 710 000 – 330 000

**2.** Плошча старонкі блакнота роўная 216 см$^2$ і складае $\frac{1}{3}$ частку плошчы старонкі кнігі. На колькі квадратных сантыметраў плошча старонкі блакнота меншая за плошчу старонкі кнігі?

**1.** Вылічы па ўзоры.

$2400 \cdot 2 = 24$ сот. $\cdot\ 2 = 48$ соц. $= 4800$

$9600 : 3 = 96$ соц. $: 3 = 32$ сот. $= 3200$

| | | |
|---|---|---|
| $1500 \cdot 5$ | $3200 \cdot 3$ | $2200 \cdot 4$ |
| $8000 : 5$ | $8100 : 3$ | $4800 : 3$ |

**2.** Вылічы па ўзоры.

$32\,000 \cdot 2 = 32$ тыс. $\cdot\ 2 = 64$ тыс. $= 64\,000$

$320\,000 \cdot 2 = 32$ дзяс. тыс. $\cdot\ 2 = 64$ дзяс. тыс. $= 640\,000$

| | | |
|---|---|---|
| $12\,000 \cdot 3$ | $24\,000 \cdot 2$ | $430\,000 \cdot 2$ |
| $230\,000 \cdot 3$ | $81\,000 : 9$ | $84\,000 : 7$ |
| $510\,000 : 3$ | $240\,000 : 2$ | $140\,000 \cdot 5$ |

**3.** Вылічы па ўзоры.

$220\,000 : 11 = 22$ дзяс. тыс. $: 11 = 2$ дзяс. тыс. $= 20\,000$

$220\,000 : 110\,000 = 22$ дзяс. тыс. $: 11$ дзяс. тыс. $= 2$

| | |
|---|---|
| $32\,000 : 16$ | $32\,000 : 16\,000$ |
| $44\,000 : 22$ | $44\,000 : 22\,000$ |
| $480\,000 : 24$ | $480\,000 : 240\,000$ |
| $660\,000 : 22$ | $660\,000 : 220\,000$ |

**4.** Які з лікаў меншы і ў колькі разоў меншы?

| | |
|---|---|
| 240 000 і 480 000 | 99 000 і 11 000 |
| 10 000 і 1000 | 9000 і 3000 |
| 17 і 850 000 | 300 000 і 30 000 |

**5.** Знайдзі значэнні выразу $(180\ 000 + b) : 3$ пры $b$, роўным 90 000, 240 000.

**6.** На 12 машынах прывезлі 36 т буракоў пароўну на кожнай. Колькі такіх машын трэба, каб прывезці 51 т буракоў?

**7.** Тыгр бяжыць са скорасцю 1 км/мін, а леў — са скорасцю 1300 м/мін. Хто са звяроў прабяжыць больш метраў за 4 мін? На колькі метраў больш?



**8.** Адна чацвёртая частка кабачка на 250 г лягчэйшая за адну другую частку гэтага кабачка. Знайдзі масу кабачка.

Растлумач вылічэнні.

3400 · 2 450 000 : 3 360 000 : 60 000

**1.** Знайдзі значэнні выразаў.

2 · 12 000 + 10 340 000 : 170 000 – 2

**2.** Маса 4 пачкаў сметанковага масла 800 г. Знайдзі масу 3 пачкаў бутэрброднага маргарыну, калі маса аднаго пачка маргарыну на 50 г большая за адзін пачак масла.

Каця вяла каляндар надвор'я ў верасні. У канцы месяца яна падлічыла колькасць ясных і пахмурных дзён і дзён з пераменнай воблачнасцю. Гэтыя лікавыя даныя яна занесла ў табліцу.

| Надвор'е |  |  |  |
|---|---|---|---|
| Колькасць дзён | 7 | 11 | 12 |

Потым Каця пабудавала **дыяграму**.




**1.** Дапоўні ўмову задачы данымі дыяграмы. Рашы задачу. Маса качана капусты … кг, а маса гарбуза … кг. Што цяжэйшае — 36 качаноў капусты ці 14 гарбузоў? На колькі кілаграмаў цяжэйшае?



**2.** Вылічы.

4 · (72 000 – 56 000)　　　300 000 – 15 000 · 2

(690 000 – 90 000) : 6　　　910 000 : 13 + 840 000 : 14

**3.** Рашы ўраўненні.

$a$ · 8 = 64 000　　　160 000 : $m$ = 80 000

**4.** Для таго каб абгарадзіць баксёрскі рынг, трэба чатыры канаты. Колькі метраў каната спатрэбіцца для абгароджвання, калі рынг мае форму квадрата са стараной 6 м?



**5.** Іван з 224 аркушаў паперы зрабіў 30 блакноцікаў. У адных блакноціках атрымалася па 7 аркушаў паперы, а ў іншых — па 9 аркушаў. Колькі розных блакноцікаў зрабіў Іван?

На дыяграме чырвонай палоскай абазначаны 15 дзяўчынак, а сіняй палоскай — 12 хлопчыкаў. Якая палоска на дыяграме мае большую даўжыню?

**1.** Знайдзі значэнне выразу.

401 000 – 360 000 : 12 + 109 000

**2.** Да абеду ў магазіне прадалі палову мукі, што мелася, а пасля абеду — тыя 20 пачкаў па 2 кг мукі ў кожным, якія засталіся. Колькі мукі было ў магазіне?

Даўжыня зялёнага адрэзка два сантыметры.

Даўжыня чырвонага адрэзка два міліметры.




У адным сантыметры дзесяць **міліметраў**.

**1 см = 10 мм**

**1.** Вымерай даўжыні адрэзкаў.



**2.** Устаў прапушчаныя лікі.

1 дм = ? см = ? мм        1 м = ? см = ? мм

**3.** Выразі ў міліметрах.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 4 см | 40 см | 400 см | 4 см 4 мм |
| 8 дм | 80 дм | 800 дм | 8 дм 8 мм |

**4.** Знайдзі $\frac{1}{10}$ см; $\frac{1}{10}$ дм; $\frac{1}{10}$ м.

**5.** Знайдзі значэнні выразаў.

| | |
|---|---|
| 50 000 · 4 | (900 800 – 800) : 3 |
| 200 000 : 4 | 39 000 · 2 – 3000 · 7 |
| 2 · 36 000 | 12 000 : 12 + 54 000 : 27 |
| 72 000 : 36 | 6300 : 700 + 210 000 : 70 000 |

**6.** Груз масай 12 000 кг развезлі трыма самазваламі. На трэцім самазвале вывезлі 3000 кг грузу. На другім самазвале вывезлі грузу на 1 т больш, чым на першым. Якую масу грузу вывезлі на першым самазвале?

**7.** Дапоўні ўмову задачы данымі дыяграмы. Рашы задачу.
Для пашыву сукенкі трэба … м тканіны, а для пашыву спадніцы — … м. Пашылі 12 сукенак. Сукенак пашылі ў 2 разы больш, чым спадніц. Колькі метраў тканіны зрасходавалі на ўсе сукенкі і спадніцы?




**8.** Рыбак злавіў чатырох шчупакоў і яшчэ палову ўлову. Колькі шчупакоў злавіў рыбак?

Колькі міліметраў змяшчаецца ў 1 см? У 5 см?

**1.** Параўнай.
8 см ? 80 мм    7 см 1 мм ? 1 дм

**2.** Пашылі 25 плашчоў, расходуючы па 4 м тканіны на кожны. Колькі плашчоў можна пашыць з гэтай тканіны, калі расходаваць па 5 м на кожны плашч?

**!** Растлумач і запомні.

1 см = 10 мм
1 дм = 10 см = 100 мм
1 м = 10 дм = 1000 мм
1 км = 1000 м = 1 000 000 мм

**1.** Выразі ў міліметрах.

7 см  6 дм  7 м
5 дм 7 см  20 см 2 мм  4 см 3 мм

**2.** Выразі ў дэцыметрах.

720 см  7200 мм  6 км
8 м 4 дм  135 000 мм  9 км 9 м

**3.** Параўнай.

$\frac{1}{5}$ км ? 2000 дм  8 км 80 м ? 880 м
$\frac{1}{2}$ м ? 5000 мм  7 дм 7 мм ? 77 см

**4.** Вылічы.

720 000 : (6400 : 800)  3000 · 5 : (45 000 : 3)
48 000 : (720 : 90)  6 · 90 000 : (42 000 : 7000)

**5.** Растлумач, што абазначаюць выразы.

У першы дзень прадалі $a$ кг яблыкаў, у другі дзень — на 250 кг больш, чым у першы, а ў трэці дзень — у 2 разы больш, чым у першы.

$a + 250$  $a \cdot 2$  $a + a \cdot 2$
$a + (a + 250)$  $a \cdot 2 - a$

**6.** Складзі і рашы задачу.




**7.** Чатыры каровы могуць даць за дзень 120 л малака. Колькі кароў могуць даць за дзень 300 л малака, калі кожная карова дае штодзённа аднолькавую колькасць малака?

**8.** Колькі зараз часу, калі гадзіннікі спяшаюцца на 15 мін? Выкарыстай пры адказе, дзе магчыма, словы «палова», «чвэрць».



**9.** Ёсць 9 кубікаў. Восем кубікаў маюць аднолькавую масу, а дзявяты кубік — меншую масу. Як знайсці больш лёгкі кубік двума ўзважваннямі на рычажных вагах?

Дапоўні сказ.
«У адным дэцыметры … міліметраў».

**1.** Выразі ў міліметрах.
9 дм 2 см 7 м 26 см 6 м 3 дм 9 мм

**2.** Маса чатырох курыных яек 320 г, а трох галубіных — 84 г. На колькі грамаў галубінае яйка лягчэйшае за курынае?

**1.** Знайдзі значэнні выразаў.

$12\,000 \cdot 4 + 200 + 1$ 　 $800\,000 : 16 + 5000 - 1$

$85\,000 : 17 \cdot 6 + 400$ 　 $720\,000 : 180\,000 + 500 + 70$

**2.** Параўнай.

2010 ? 2001 　 $13\,000 \cdot 4$ ? $5 \cdot 12\,000$

5900 ? 5009 　 $180\,000 \cdot 4$ ? $5 \cdot 180\,000$

3339 ? 3340 　 $77\,000 : 7$ ? $77\,000 : 11$

8899 ? 8989 　 $12\,000 : 2000$ ? $14\,000 : 2000$

**3.** Выразі ў сантыметрах.

6 дм 　 180 дм 　 30 мм 　 240 мм

500 мм 　 7 м 7 см 　 9 дм 90 мм 　 3500 мм

**4.** Выразі ў метрах.

400 см 　 4 км 900 м 　 600 дм 　 12 000 мм

7 км 10 м 　 24 км 6 м 　 540 дм 　 640 000 мм

**5.** Рашы ўраўненні.

$x + 888 = 1000$ 　 $1000 - y = 121$

$1000 \cdot a = 5000$ 　 $13\,000 : c = 13$

**6.** Плошча ліста фанеры 354 $см^2$. Спачатку адпілілі трэць гэтага ліста, а потым яшчэ палову той часткі, што засталася. Колькі квадратных сантыметраў ліста фанеры пасля гэтага засталося?

**7.** Мурашка паўзе да мурашніка са скорасцю 5 м/мін. Ці паспее яна дапаўзці да мурашніка за 9 мін, калі адлегласць ад мурашкі да мурашніка 40 м?

**8.** Выберы схему. Рашы задачу.
У стос кніг паклалі яшчэ 10 кніг. Пасля гэтага ў ім аказалася ў 3 разы больш кніг, чым было. Колькі кніг было ў стосе першапачаткова?

①



②



③



④



**9.** Знайдзі заканамернасць. Устаў прапушчаныя лікі.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 240 | 340 | 440 | 540 | ? | ? |
| ↓ | ↓ | ↓ | ↓ | ↓ | ↓ |
| 120 | 170 | 220 | ? | ? | ? |
| ↓ | ↓ | ↓ | ↓ | ↓ | ↓ |
| 60 | 85 | ? | ? | ? | ? |

**1.** Вылічы.
(415 + 335) : 3 (819 – 781) : 19

**2.** Веласіпедыст некалькі гадзін ехаў са скорасцю 12 км/г, а астатні шлях ён адолеў за 4 г са скорасцю 15 км/г. Увесь шлях склаў 96 км. Колькі часу веласіпедыст ехаў першую частку шляху?

**1.** Устаў прапушчаныя лічбы так, каб няроўнасці былі правільныя.

4*39 < 4701 56*1 < 56*1

*3*4 > 6*3* 2987 > ***9

**2.** Састаў выразы па ўзоры і знайдзі іх значэнні.

| Шостую частку ліку 18 000 павялічылі на 19 000. | 18 000 : 6 + 19 000 = ? |
|---|---|

- Пятую частку ліку 80 000 паменшылі на 6000.
- Трэцюю частку сумы лікаў 250 000 і 650 000 павялічылі на 11 000.

**3.** Начарці адрэзкі, даўжыні якіх роўныя: 10 мм, 25 мм, 40 мм, 55 мм.

**4.** Вылічы.

320 мм · 3 54 000 мм : 6 (24 дм + 60 см) : 3

960 дм : 16 120 мм · 8 (100 мм – 4 см) · 7

**5.** Два поезды выехалі адначасова з аднаго горада ў супрацьлеглых напрамках. Таварны поезд быў у дарозе 2 г і рухаўся са скорасцю 80 км/г. Пасажырскі поезд за той жа час праехаў 200 км. На якую адлегласць аддаліліся паязды за ўвесь час руху? З якой скорасцю ехаў пасажырскі поезд?

**6.** Складзі задачу пра паязды з задачы 5 пры ўмове, што яны рухаюцца насустрач адзін аднаму.

**7.** Дапоўні ўмову задачы данымі дыяграмы. Рашы задачу. У сям'і чацвёра дзяцей. Узрост мамы ў 2 разы большы за суму ўзростаў усіх дзяцей, а ўзрост таты ў 3 разы большы за суму ўзростаў Пашы і Віці. Хто старэйшы — тата ці мама? На колькі гадоў старэйшы?




**8.** Выберы правільны план пакоя.





**1.** Параўнай.

7300 м ? 73 дм　　　1600 см · 5 ? 8 м
210 мм ? 21 см　　　24 000 мм : 12 ? 20 дм

**2.** За 5 с Кастусь прабег 60 м. Колькі метраў ён прабяжыць за 7 с, калі яго скорасць не зменіцца?

Разгледзь план заняткаў Пеці на тыдзень пасля ўрокаў у школе. Назаві дні тыдня. Якія заняткі плануе Пеця? У якія дні тыдня Пеця заняты пасля школы больш? Менш?

| | 20 пн | 21 аўт | 22 ср | 23 чц | 24 пт | 25 сб | 26 ндз |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| $14^{00}$ | | | | | | | |
| $15^{00}$ | | | | | | Музей | |
| $16^{00}$ | Хакей | | Хакей | | Хакей | | |
| $17^{00}$ | | | | Кіно | | | |
| $18^{00}$ | | Інтэрнэт-клуб | | | | | |
| $19^{00}$ | Прагулка з сабакам | | Прагулка з сабакам | | Прагулка з сабакам | | Прагулка з сабакам |
| $20^{00}$ | | | | | | | |

Якія месяцы ты ведаеш? Колькі тыдняў у адным месяцы? Колькі сутак? Колькі дзён?



1. Па пятніцах Лёня наведвае танцавальны гурток, а па панядзелках і суботах — басейн. Колькі дзён у лістападзе Лёня наведваў танцавальны гурток? Басейн? Колькі дзён у студзені Лёня будзе наведваць танцавальны гурток? Басейн?

2. Сям'я паехала ў адпачынак 15 ліпеня, а вярнулася дамоў праз два тыдні. Калі сям'я вярнулася дамоў?

3. Знайдзі значэнні выразаў.

| | |
|---|---|
| 356 000 + 341 | 590 178 – 178 |
| 948 000 + 705 | 834 521 – 521 |
| 606 + 606 000 | 29 310 – 310 |

4. Пры якіх значэннях пераменнай $a$ няроўнасці будуць правільныя?

$a \cdot 3000 < 9000$ $\qquad$ $8000 + a < 8005$

5. Вожык, калі яму пагражае небяспека, прабягае за 1 секунду 2 м. Гэта ў 2 разы менш, чым прабягае за 1 секунду заяц. Хто з іх хутчэй прабяжыць адлегласць у 20 м? На колькі секунд хутчэй?

? Колькі тыдняў у чэрвені? Ліпені? Жніўні? Колькі тыдняў ва ўсіх летніх месяцах?

1. Знайдзі значэнні выразаў.

362 : 362 + 20 + 3000 $\qquad$ 520 : 13 + 750 : 25

2. Міца прачытаў кнігу за тыдзень, чытаючы штодзённа па 15 старонак. За колькі дзён ён змог бы прачытаць гэту кнігу, калі б кожны дзень чытаў на 8 старонак менш?

Колькі сутак у студзені? У чэрвені? У верасні? Колькі дзён?

| Студзень | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| пн | аўт | ср | чц | пт | сб | ндз |
| | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 |
| 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 |
| 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 |
| 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 |
| 28 | 29 | 30 | 31 | | | |

| Чэрвень | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| пн | аўт | ср | чц | пт | сб | ндз |
| | | | | | 1 | 2 |
| 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 |
| 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 |
| 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 |

| Верасень | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| пн | аўт | ср | чц | пт | сб | ндз |
| | | | | | | 1 |
| 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
| 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 |
| 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 |
| 23 | 24 | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 |
| 30 | | | | | | |

Ва ўсіх месяцах, акрамя лютага, 30 сутак або 31 суткі. Люты — самы кароткі месяц. У ім 28 сутак. Часам у лютым бывае 29 сутак. Паглядзі на рысунак і вызнач, колькі сутак у кожным месяцы бягучага года.




**У месяцы 30 сутак або 31 суткі.**
**У лютым 28 або 29 сутак.**

**1.** Колькі сутак доўжыцца кожная пара года? На колькі сутак лета даўжэйшае за восень?

**2.** ● Назаві лікі, якія папярэднічаюць лікам:

1000, 10 000, 100 000.

● Назаві лікі, якія ідуць за лікамі:

999, 9999, 99 999, 999 999.

**3.** Рашы ўраўненні.

$869 = a : 1$ $391 = 391 \cdot x$ $76 = 19 \cdot c$

**4.** Знайдзі значэнні выразаў.
$(230 + 770) \cdot 5 + 244$
$75 \cdot 4 + (61\,000 + 39\,000) \cdot 7$

**5.** Знайдзі дзель лікаў $m$ і $n$, калі:
- $m$ роўна 792 і $n$ роўна 9;
- $m$ роўна 592 і $n$ роўна 8.

**6.** Майстар можа за 6 г зрабіць 78 дэталей. Вучань майстра робіць за 1 г 10 дэталей. За колькі гадзін майстар і вучань зробяць 69 дэталей, калі будуць працаваць разам?

**7.** Перыметр прамавугольніка *ABCD* 16 см. Даўжыня прамавугольніка ў 3 разы большая за шырыню. Знайдзі даўжыні старон гэтага прамавугольніка. Начарці такі прамавугольнік.

**8.** Толя нарадзіўся ў верасні. Ён на 60 дзён маладзейшы за Таню. У гэтым годзе дзень нараджэння Толі быў у аўторак. На які дзень тыдня прыпадае ў гэтым годзе дзень нараджэння Тані?

? Назаві самы кароткі месяц у годзе.

**1.** Знайдзі значэнні выразаў пры $b = 0$.
$(198 + 136) - 26 + b \cdot 1302$
$804 - (265 - 139) + b : 36$

**2.** За 5 мін швачка можа адстрачыць 30 аднолькавых дэталей. Колькі такіх дэталей можа адстрачыць швачка за чвэрць гадзіны працы? За паўгадзіны працы?

**!** У годзе 12 месяцаў. Колькі ў годзе вясенніх месяцаў? Летніх месяцаў? Зімніх месяцаў?




**1.** Дапоўні сказы.

- У годзе 7 месяцаў, у кожным з якіх … суткі. Гэта месяцы — … .
- У годзе 4 месяцы, у якіх па … сутак. Гэта месяцы — … .
- У годзе ёсць месяц, у якім 28 або 29 сутак. Гэта месяц — … .

**2.** Колькі месяцаў?

| | |
|---|---|
| 3 гады | 2 гады 6 месяцаў |
| 5 гадоў | 4 гады 10 месяцаў |
| 10 гадоў | 6 гадоў 4 месяцы |

**3.** Колькі гадоў?

| | |
|---|---|
| 24 месяцы | 48 месяцаў |
| 60 месяцаў | 84 месяцы |

**4.** Састаў выразы і знайдзі іх значэнні.

- Сума, у якой адно складаемае 120, а другое на 50 большае.
- Сума, у якой адно складаемае 1600, а другое на 300 меншае.

**5.** Выканай дзяленне з астачай і праверку.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 91 : 5 | 962 : 3 | 284 : 7 | 17 : 25 |
| 526 : 4 | 875 : 6 | 967 : 8 | 120 : 130 |

**6.** Кірыл пачаў чытаць кнігу ў 16 г 15 мін, а закончыў праз паўгадзіны. А якой гадзіне Кірыл закончыў чытаць кнігу?

**7.** Прывезлі 96 м тканіны. Трэцюю частку ўсёй тканіны зрасходавалі на дзіцячыя курткі. Ці хопіць тканіны, якая засталася, на пашыў 9 жаночых куртак, калі на кожную куртку расходуецца 6 м тканіны?

**8.** Колькі трохзначных лікаў можна саставіць з лічбаў 0, 1, 2 і 3, калі лічбы ў ліках не паўтараюцца?

Які зараз месяц?
Які месяц наступіць праз год?
Які месяц наступіць праз 12 месяцаў?

**1.** Знайдзі значэнні выразаў.

$474 : (90 : 15)$ $\quad$ $63 : 21 \cdot 86$ $\quad$ $2 \cdot 120 : 24$

**2.** З металічнай трубы даўжынёй 36 м можна зрабіць 4 аднолькавыя загатоўкі. Колькі такіх загатовак можна зрабіць з трубы даўжынёй 810 дм?

Вылічы па календары, колькі ўсяго сутак у годзе. Павінна атрымацца 365 або 366 сутак.

Год, у якім 366 сутак, называецца высакосным.
У высакосным годзе ў лютым 29 сутак.
Высакосны год бывае 1 раз у 4 гады.

1. Вызнач па календары, які зараз год — высакосны ці невысакосны. Якім быў мінулы год? Якім будзе наступны год?

2. На колькі дзён больш доўжыцца лета, чым зіма, у высакосным годзе? У невысакосным годзе?

3. Састаў выразы і знайдзі іх значэнні.
   - Здабытак лікаў 240 і 4 паменшы ў 80 разоў.
   - Дзель лікаў 72 і 18 павяліч у 10 разоў.

4. Першы лік 798. Ён у 7 разоў большы за другі лік і ў 6 разоў большы за трэці лік. Знайдзі суму гэтых трох лікаў.

5. Параўнай.

| | |
|---|---|
| 861 мм ? 8 м | 3891 м ? 3 км |
| 6 г ? 600 мін | 550 с ? 9 мін 20 с |
| 9 т 9 кг ? 990 кг | 606 кг ? 6 т 6 кг |

6. У дзвюх скрынках 69 кг дэталей. Маса дэталей у адной скрынцы складае палову масы дэталей у другой скрынцы. Знайдзі масу дэталей у кожнай скрынцы.

**7.** Дапоўні ўмову задачы данымі табліцы. Рашы задачу. Поезд выехаў з Магілёва і прыехаў у Брэст, зрабіўшы прыпынак у Мінску, а потым паехаў назад тым жа маршрутам. Колькі кіламетраў праехаў поезд?

| Горад | Адлегласць ад Мінска, км |
|---|---|
| Брэст | 400 |
| Віцебск | 300 |
| Гомель | 400 |
| Гродна | 400 |
| Магілёў | 250 |

**8.** Аркуш паперы склалі папалам і выразалі фігуру па пункцірнай лініі. Потым выразаную фігуру разгарнулі. Уяві, якая фігура атрымалася. Правер сваё меркаванне.



Колькі сутак у высакосным годзе?
Колькі сутак у невысакосным годзе?

**1.** Вылічы.

738 : 6 – 861 : 7        5 · 195 – 875 : 5

**2.** Начарці ў сшытку прамавугольнік з даўжынямі старон 6 см 5 мм і 3 см 5 мм. Знайдзі перыметр гэтага прамавугольніка.

① Для вымярэння часу выкарыстоўваюць больш буйную, чым год, адзінку — **стагоддзе**.

Стагоддзе — адзінка часу.
1 стагоддзе роўнае 100 гадам.
1 ст. = 100 г.

② Разгледзь схему, на якой паказана 5 стагоддзяў у выглядзе адрэзкаў.




Стагоддзі прынята лічыць ад кропкі, якую называюць пачаткам летазлічэння. Гэта кропка на схеме абазначана лічбай 0.
Паміж якімі кропкамі на схеме размешчана кропка, якая абазначае 150 гадоў? Якое гэта стагоддзе?

Разважай так:
1. Першае стагоддзе доўжылася 100 гадоў і закончылася сотым годам.
2. Другое стагоддзе доўжылася яшчэ 100 гадоў і закончылася двухсотым годам.
3. Паміж сотым годам і двухсотым годам знаходзіцца стопяцідзясяты год.
4. Значыць, 150-ы год быў у другім стагоддзі.

**1.** Колькі гадоў у двух стагоддзях; чатырох стагоддзях; у двух стагоддзях і 30 гадах?

**2.** Да якога па ліку стагоддзя адносяцца гэтыя гады?

289 г. 401 г. 552 г.

925 г. 1399 г. 2014 г.

**3.** Вылічы.

6 г. 9 мес. + 1 г. 2 мес.
1 г. 5 мес. + 2 г. 7 мес.
4 г. 10 мес. – 2 г. 9 мес.
3 г. 10 мес. – 1 г. 1 мес.

2 г. 4 мес. : 7
1 г. 3 мес. · 4
1 сут. 6 г · 3
4 сут. 2 г : 2

**4.** Рашы ўраўненні.

$4 \cdot x = 708$
$x \cdot 3 = 369$

$894 : y = 6$
$y : 3 = 276$

$20\,000 - a = 18\,000$
$a - 640\,000 = 360\,000$

**5.** У тры магазіны завезлі цукеркі: у першы магазін — 600 кг, у другі — трэцюю частку таго, што завезлі ў першы магазін, а ў трэці магазін — столькі ж цукерак, колькі ў першы і ў другі магазіны разам. Колькі кілаграмаў цукерак засталося ў трэцім магазіне пасля таго, як там прадалі палову ўсіх прывезеных цукерак?

Колькі гадоў у адным стагоддзі? У трох стагоддзях? У сямі стагоддзях?

**1.** Вылічы.

924 : 7 882 : 6 752 : 8 448 : 7

**2.** Ліфт у жылым доме можа паднімаць груз масай, не большай за 400 кг. Ці зможа такі ліфт падняць усіх членаў тваёй сям'і?

**1.** Запішы лікі. Напішы лікі ў парадку ўзрастання.

2 дзясяткі тысяч 1 тысяча 5 соцень 7 дзясяткаў 3 адзінкі

5 соцень тысяч 3 тысячы 8 соцень 5 дзясяткаў 5 адзінак

32 сотні 5 дзясяткаў 3 адзінкі

24 дзясяткі тысяч 3 сотні 4 дзясяткі

12 адзінак II класа 12 адзінак I класа

**2.** Вылічы.

$(45 \cdot 10 - 122) : 8$ $\qquad$ $(136 + 164) : 6 \cdot 9$

$213 \cdot 3 : 9 + 345$ $\qquad$ $768 : 8 \cdot 7 + 888 : 6$

**3.** Рашы ўраўненні.

$349 + x = 720$ $\qquad$ $54\,000 : x = 3$ $\qquad$ $x - 415 = 326$

$4 \cdot x = 216$ $\qquad$ $x : 1200 = 4$ $\qquad$ $990 - x = 176$

**4.** Параўнай.

80 мм ? 8 см $\qquad$ 26 г ? 2 сут.

72 м ? 720 мм $\qquad$ 100 мін ? 1 г

35 мм ? 3 дм $\qquad$ 4 г ? 240 мін

**5.** Маса аўтамабіля з поўным бакам бензіну роўная 1 т 200 кг. Маса аўтамабіля з пустым бакам — 1 т 100 кг. Якая будзе маса аўтамабіля з бакам, які запоўнены бензінам напалову?

**6.** За кожныя 3 мінуты аўтамат выпускае 246 слоікаў з сокам. Колькі слоікаў выпусціць аўтамат за адну дзясятую частку гадзіны?

**7.** Складзі задачы, выкарыстоўваючы даныя табліцы. Рашы задачы.

| Адпраўленне | Час у дарозе | Прыбыццё |
|---|---|---|
| 10.00 | ? | 10.45 |
| 12.00 | 1 г 30 мін | ? |
| ? | 3 г | 17.30 |

**8.** Самалёт можа праляцець 4500 км за 5 г. Якую адлегласць ён праляціць за гэты час, калі паменшыць скорасць на 100 км/г?

**9.** Трэба пафарбаваць 84 м агароджы. Адзін рабочы можа выканаць гэту работу за 6 г, а другі — за 3 г. Колькі часу спатрэбіцца гэтым рабочым, калі яны будуць фарбаваць агароджу разам?

**10.** Начарці прамавугольнік *ABCD* з даўжынямі старон 65 мм і 25 мм. Знайдзі перыметр гэтага прамавугольніка.

**11.** Міша нарадзіўся ў апошні дзень лютага ў высакосным годзе. Колькі разоў за 10 гадоў Міша адзначаў свой дзень нараджэння ў гэты дзень?



**12.** Першыя ўспаміны пра Мінск у летапісе былі ў 1067 годзе. У якім стагоддзі Мінск упершыню быў упамянуты ў летапісе?

Начарці квадрат, даўжыня стараны якога роўная 1 дм.

Плошча квадрата са старанай 1 дм роўная аднаму квадратнаму дэцыметру (1 дм$^2$).

Квадратны дэцыметр — гэта адзінка плошчы.

**1.** Плошча падлогі ў пакоі, на якую трэба пакласці паркет, 2400 дм$^2$. Спачатку паркет паклалі на чацвёртую частку гэтай плошчы, а пасля — на палову ад той, што заставалася. На колькі квадратных дэцыметраў плошчы засталося пакласці паркет?

**2.** Выразі ў гадзінах.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 120 мін | 300 мін | 360 мін | 240 мін |
| 1 сут. | 2 сут. | 3 сут. | 4 сут. |

**3.** Знайдзі значэнні выразаў.

66 000 + 34 000 – 24 000 246 + 98 – 179

9900 – 5400 + 250 000 162 – 96 + 418

**4.** Знайдзі значэнні выразаў:

- $a + a + a \cdot 3$ пры $a$, роўным 1900;
- $b \cdot 2 + b \cdot 5$ пры $b$, роўным 110 000.

**5.** Таварны поезд быў у дарозе 3 г і праехаў 264 км. Пасажырскі поезд за той жа час праехаў 297 км. Скорасць якога поезда большая? На колькі кіламетраў у гадзіну большая?

6. На дзвюх паліцах кніг было пароўну. З першай паліцы пераставілі на другую 15 кніг. На якой паліцы кніг стала больш? На колькі кніг больш?

7. На дзвюх паліцах кніг было пароўну. З першай паліцы пераставілі на другую 15 кніг, а з другой на першую — 10 кніг. На якой паліцы кніг стала больш? На колькі кніг больш?

8. Складзі пытанне. Рашы задачу.
Вышыня надводнай часткі айсберга 20 м, што складае $\frac{1}{7}$ частку яго падводнай часткі.

9. Перыметр прамавугольніка 48 дм. Яго шырыня складае $\frac{1}{2}$ частку яго даўжыні. Знайдзі даўжыні старон гэтага прамавугольніка.

? Якая даўжыня стараны квадрата, плошча якога роўная 1 $дм^2$?

1. Вылічы.
250 000 · 3 9600 : 24 72 000 : 3000

2. Верталёт ляціць са скорасцю 350 км/г. На колькі менш кіламетраў ён праляціць за 4 г, калі яго скорасць паменшыцца на 50 км/г?

Для вымярэння вялікіх плошчаў выкарыстоўваюць адзінку плошчы — **квадратны метр**.

Плошча квадрата са стараной 1 м роўная аднаму квадратнаму метру (1 $м^2$).
Квадратны метр — гэта адзінка плошчы.

**1.** Вылічы плошчы фігур, састаўленых з квадратаў. Лічы, што даўжыня стараны кожнага квадрата роўная 1 м.



**2.** Адзін участак зямлі мае плошчу 150 $м^2$. Яго плошча роўная палавіне плошчы другога ўчастка. Знайдзі плошчу двух зямельных участкаў.

**3.**
- Колькі міліметраў у $\frac{1}{2}$ м, $\frac{1}{5}$ м, $\frac{1}{4}$ м, $\frac{1}{10}$ м?
- Колькі мінут у $\frac{1}{2}$ г, $\frac{1}{5}$ г, $\frac{1}{4}$ г, $\frac{1}{10}$ г?
- Колькі грамаў у $\frac{1}{2}$ кг, $\frac{1}{5}$ кг, $\frac{1}{4}$ кг, $\frac{1}{10}$ кг?

**4.** Знайдзі значэнні выразаў.
18 000 + 82 000 + 24 000 + 76 000
140 000 + (160 000 + 840 000) – 220 000
(70 000 : 2 – 5000) · 3 – 16 000
171 000 · 0 + 350 000 : 5 – 73 · 0 : 1

**5.** Першы беларускі касманаўт Пётр Клімук паляцеў у космас у 1973 г. У якім стагоддзі ён паляцеў у космас?



**6.** З двух гарадоў, адлегласць паміж якімі 300 км, адначасова выехалі насустрач адзін аднаму аўтамабіль са скорасцю $a$ км/г і матацыкл са скорасцю $c$ км/г. Вядома, што матацыкл ехаў з большай скорасцю. Састаў выразы, якія абазначаюць:

- скорасць збліжэння аўтамабіля і матацыкла;
- час, які патрэбен аўтамабілю, каб прыехаць у другі горад;
- час, які патрэбен матацыклу, каб прыехаць у другі горад;
- на колькі больш часу спатрэбіцца аднаму транспартнаму сродку, чым другому, каб праехаць 300 км.

? Якая даўжыня стараны квадрата, плошча якога роўная 1 $м^2$?

**1.** Рашы ўраўненні.

$2400 : x = 2$ $\qquad$ $y \cdot 4 = 560\ 000$

$a + 21\ 000 = 100\ 000$ $\qquad$ $b - 47\ 000 = 100\ 000$

**2.** Шнур даўжынёй 90 см разрэзалі на дзве часткі так, каб адна частка аказалася даўжэйшай за другую на 20 см. Знайдзі даўжыню кожнай часткі.

# Урок 38

**!** Начарці квадрат плошчай 1 $дм^2$.

Колькі квадратных сантыметраў змяшчаецца ўздоўж адной стараны гэтага квадрата?

Колькі такіх радоў?
Колькі квадратных сантыметраў?



У адным квадратным дэцыметры дзесяць дзясяткаў квадратных сантыметраў, або адна сотня квадратных сантыметраў.

$$1\ дм^2 = 100\ см^2$$

**1.** Устаў прапушчаныя лікі. Растлумач.

$1\ дм^2 = ?\ см^2$ $1\ м^2 = ?\ дм^2$ $1\ м^2 = ?\ см^2$

**2.** Вырazі ў квадратных сантыметрах.

$7\ дм^2$ $4\ дм^2$ $18\ дм^2$ $260\ дм^2$ $321\ дм^2$

Разважай так: $7\ дм^2$ — гэта сем соцень квадратных сантыметраў, або $700\ см^2$.

$$7\ дм^2 = 700\ см^2$$

**3.** Вырazі ў квадратных дэцыметрах.

$3\ м^2$ $7\ м^2$ $61\ м^2$ $300\ м^2$ $660\ м^2$

Разважай так: $3\ м^2$ — гэта тры сотні квадратных дэцыметраў, або $300\ дм^2$.

$$3\ м^2 = 300\ дм^2$$

**4.** Выразі ў квадратных сантыметрах.

8 м$^2$ 5 м$^2$ 20 м$^2$ 14 м$^2$ 25 м$^2$

Развaжай так: 8 м$^2$ — гэта 8 дзясяткаў тысяч квадратных сантыметраў, або 80 000 см$^2$.

$$8 \text{ м}^2 = 80\,000 \text{ см}^2$$

**5.** Растлумач, што абазначаюць выразы да ўмовы задачы. Віця ішоў 8 мін са скорасцю $a$ м/мін. Потым ён павялічыў скорасць на 10 м/мін і ішоў яшчэ 5 мін.
$a \cdot 8$ $a + 10$ $(a + 10) \cdot 5$

**6.** У кнізе 75 старонак. У першы дзень Таня прачытала $\frac{1}{5}$ частку кнігі, а ў другі дзень — 11 старонак. Колькі старонак засталося прачытаць Тані?

**7.** Квадрат з даўжынёй стараны, роўнай 10 см, падзялілі на два роўныя прамавугольнікі. Знайдзі перыметр кожнага прамавугольніка.

? Колькі квадратных сантыметраў змяшчаецца ў адным квадратным дэцыметры?

**1.** Знайдзі значэнні выразаў.
(24 000 – 8000) : 16 112 · 6 – 22 · 6

**2.** Для вырабу 8 пар аднолькавага абутку неабходна 32 дм$^2$ скуры. Колькі квадратных дэцыметраў скуры спатрэбіцца, калі трэба пашыць у 2 разы менш пар такога абутку?

Як вылічыць плошчу прамавугольніка, не выкарыстоўваючы палетку? Разгледзь прамавугольнік з даўжынямі старон 5 см і 3 см.




Колькі квадратных сантыметраў размяшчаецца ў радзе ўздоўж адной стараны прамавугольніка? Колькі такіх радоў? Растлумач два способы вылічэнняў:

5 см$^2$ · 3 = 15 см$^2$ 3 см$^2$ · 5 = 15 см$^2$

Плошча фігуры абазначаецца літарай $S$.
Плошча прамавугольніка з даўжынямі старон $a$ і $b$ роўная здабытку гэтых старон.

$$S = a \cdot b$$

**1.** Вылічы плошчы прамавугольнікаў.



**2.** Вылічы плошчу прамавугольніка, даўжыня якога роўная 27 м, а шырыня 8 м.

**3.** Рашы задачу. Складзі адваротную задачу.
Плошча першага прамавугольніка 20 см$^2$, а плошча другога прамавугольніка 40 см$^2$. Знайдзі плошчу трэцяга прамавугольніка, калі сума ўсіх плошчаў роўная 100 см$^2$.

**4.** Састаў выразы і знайдзі іх значэнні пры $a$, роўным 1, 100, 1000.

- Сума складаецца з трох складаемых: першае складаемае $a$, другое — на 5 большае, а трэцяе — у 3 разы большае за першае.
- Сума складаецца з чатырох складаемых: першае складаемае роўна $a$, а кожнае наступнае — на 500 большае за папярэдняе.

**5.** Веласіпедыст некалькі гадзін ехаў са скорасцю 12 км/г, а астатні шлях ён праехаў за 4 г са скорасцю 15 км/г. Увесь шлях склаў 96 км. Колькі часу веласіпедыст ехаў першую частку шляху?

**6.** У 12 аднолькавых пакетаў расфасавалі 60 кг вішні. Колькі такіх пакетаў трэба, каб расфасаваць 45 кг вішні?

**7.** Гадзіннік адбівае 4 удары за 6 с. За колькі секунд ён адаб'е 8 удараў?

Чаму роўная плошча прамавугольніка з даўжынямі старон $c$ і $d$? Выберы правільны выраз.

$c + d$ $c \cdot d$ $c - d$ $c : d$

**1.** Вылічы.

176 : (802 – 798) (362 + 125) · 2

**2.** Вылічы плошчу прамавугольніка з даўжынямі старон, роўнымі 14 см і 7 см.

**1.** Прачытай назвы квадратаў. Вылічы іх плошчы.




**2.** Вылічы плошчы фігур.







**3.** Плошча прамавугольніка роўная 48 $см^2$, а даўжыня адной яго стараны — 12 см. Знайдзі даўжыню другой стараны прамавугольніка.

**4.** Выразі ў квадратных сантыметрах.

| | | |
|---|---|---|
| 8 $дм^2$ | 14 $дм^2$ | 8 $дм^2$ 27 $см^2$ |
| 5 $м^2$ | 13 $м^2$ | 12 $дм^2$ 27 $см^2$ |

**5.** Горад Мазыр быў заснаваны ў 12 стагоддзі. Выберы год заснавання гэтага горада.

1912 г. 1255 г. 1155 г.

**6.** Знайдзі значэнні выразаў.

672 : 4 2 · (14 000 + 36 000) : 8

672 : 8 (390 000 · 2 – 80 000) : 35

**7.** Складзі і рашы задачу.

<table>
<tr><th>Скорасць, км/г</th><th>Час, г</th><th>Адлегласць, км</th></tr>
<tr><td rowspan="2">аднолькавая</td><td>6</td><td>480</td></tr>
<tr><td>8</td><td>?</td></tr>
</table>

**8.** Выберы дыяграму, якая падыходзіць да табліцы.

| Насякомае | Жук | Страказа | Вусень | Конік |
|---|---|---|---|---|
| Даўжыня | 1 см | 4 см | 3 см | 2 см |







**1.** Знайдзі значэнні выразаў.

68 000 : 17 + 640 : 160 148 · (76 : 19)

**2.** Вылічы плошчу прамавугольніка, шырыня якога роўная 5 дм, а даўжыня — у 3 разы большая.

Для вызначэння масы цяжкіх грузаў выкарыстоўваюць адзінку масы — **цэнтнер**.

У адным цэнтнеры — адна сотня кілаграмаў.

1 ц = 100 кг

**1.** Выразі ў кілаграмах.

2 ц   3 ц   10 ц   15 ц   27 ц

Разважай так:
2 ц — гэта дзве сотні кілаграмаў, або 200 кг.

2 ц = 200 кг

**2.** Выразі ў цэнтнерах.

| | | |
|---|---|---|
| 400 кг | 700 кг | 1000 кг |
| 1700 кг | 35 000 кг | 80 000 кг |

Разважай так:
400 кг — гэта чатыры сотні кілаграмаў, або 4 ц.

400 кг = 4 ц

**3.** Знайдзі значэнні выразаў.

(530 000 – 30 000) : 2    (960 000 – 900 000) · 3

(524 000 – 4000) : 26    (54 000 – 30 000) · 4

**4.** Састаў ураўненні і рашы іх.

- Да задуманага ліку дадалі лік 637 і атрымалі лік 965.
- Ад ліку 777 аднялі задуманы лік і атрымалі 398.

**5.** Прывезлі 2 ц круп у 4 аднолькавых мяхах. Колькі кілаграмаў круп было ў адным мяху?




2 ц

**6.** Выберы схему. Рашы задачу.
Спартсмен прабег 150 м. Гэта складае $\frac{1}{3}$ частку адлегласці, якую засталося прабегчы. Якую адлегласць засталося прабегчы спартсмену?







**7.** Ніна вырашыла схадзіць у тэатр. Паглядзеўшы ў каляндар, яна заўважыла, што ад пачатку месяца прайшло 14 дзён, а да канца месяца засталося 15 дзён. Назаві дзень і месяц, калі Ніна пойдзе ў тэатр.

Колькі кілаграмаў змяшчаецца ў адным цэнтнеры?
Колькі цэнтнераў складаюць 300 кг?

**1.**
- Выразі ў кілаграмах: 5 ц; 72 ц.
- Выразі ў цэнтнерах: 300 кг; 52 000 кг.

**2.** Састаў выраз да задачы. Знайдзі яго значэнні пры $a$, роўным 15.
У ломанай два звяны. Першае звяно ломанай 40 см. Другое звяно карацейшае на $a$ см. Якая даўжыня ломанай?

**Растлумач і запомні.**

| | |
|---|---|
| 1 кг = 1000 г | 1 т = 1000 кг |
| 1 ц = 100 кг | 1 т = 10 ц |

**1.** Выразі ў кілаграмах.

| | | |
|---|---|---|
| 3 ц | 8 т 300 кг | 4000 г |
| 16 т | 21 т 21 кг | 9 ц 6 кг |
| 7 т 7 кг | 15 т 5 ц | 1 т 1 ц 1 кг |

**2.** Выразі ў цэнтнерах.

| | | |
|---|---|---|
| 4 т | 2 т 2 ц | 27 000 кг |
| 300 кг | 50 т 5 ц | 4 т 700 кг |

**3.** Выразі ў тонах.

| | | |
|---|---|---|
| 20 ц | 50 000 кг | 1 000 000 г |
| 900 ц | 290 000 кг | 100 000 кг |

**4.** Выканай дзяленне з астачай.

| | | |
|---|---|---|
| 70 : 8 | 580 : 6 | 25 : 30 |
| 64 : 7 | 741 : 5 | 39 : 70 |

**5.** Маса гузіка 2 г. Якую масу маюць 100 тыс. такіх гузікаў? Ці можна гэтыя гузікі раскласці ва ўпакоўкі па 500 г?

**6.** За 2 дні зубр з'ядае цэнтнер зялёнай масы. Колькі кілаграмаў зялёнай масы могуць з'есці 5 зуброў за 4 дні?



**7.** Адзін станок-аўтамат робіць 10 дэталей за мінуту, а другі — 5 дэталей. За колькі мінут гэтыя станкі зробяць 90 дэталей, калі будуць працаваць разам?

**8.** Мяркуюць, што вялікі беларускі вучоны Францыск Скарына нарадзіўся каля 1490 г. Першую друкаваную беларускую кнігу ён выдаў у 1517 г. У якім стагоддзі нарадзіўся Францыск Скарына? У якім стагоддзі ён выдаў першую друкаваную кнігу?



**9.** Плошча кавалка лінолеуму прамавугольнай формы роўная 600 дм$^2$. Знайдзі даўжыню адной са старон гэтага кавалка, калі даўжыня другой стараны роўная 12 см.

**10.** Каця абвязвае сурвэтку квадратнай формы за 1 г. Колькі гадзін спатрэбіцца ёй, каб абвязаць сурвэтку, плошча якой у 4 разы большая?

Колькі цэнтнераў змяшчаецца ў 1 т?
Колькі тон складаюць 50 ц?

**1.** Знайдзі значэнні выразаў.

921 – (359 + 441)  243 · 4 : 2

(271 + 629) – 388  438 : 3 · 5

**2.** Маса аўтамабіля з грузам 12 ц, а маса грузу ў ім — 4 ц. Якая маса двух такіх аўтамабіляў без грузу? Адказ выразі ў кілаграмах.

На дыяграме паказана, колькі розных грыбоў знайшлі дзеці.




Якіх грыбоў дзеці знайшлі больш? Якіх менш? Колькі знайшлі баравікоў? Колькі падасінавікаў?

**1.** Колькі ўсяго дрэў пасадзілі? Складзі ўмову задачы і рашы яе.



**2.** Выразі ў тонах і цэнтнерах.

35 ц    4001 ц    9700 кг    72 ц 600 кг

**3.** Вылічы.

(27 кг + 32 кг) · 3    200 г · 2 + 600 г

(96 ц – 86 ц) : 5    68 т – 13 т · 5

**4.** Калі турыст праехаў 20 км, то да палавіны адлегласці паміж гарадамі яму засталося праехаць 60 км. Знайдзі $\frac{1}{4}$ частку адлегласці паміж гарадамі.

**5.** Рашы задачу. Складзі адваротную задачу.
Плошча прамавугольніка роўная 720 дм$^2$, а даўжыня адной яго стараны роўная 6 дм. Знайдзі даўжыню другой стараны прамавугольніка.

**6.** Калі да ліку дадаць 6, то ён падзеліцца без астачы на 8. Чаму роўная астача ад дзялення гэтага ліку на 8?

**?** На дыяграме чырвоная паласа абазначае масу дыні, а сіняя — масу кабачка. Чырвоная паласа ў 2 разы даўжэйшая за сінюю. Што цяжэй — кабачок ці дыня?

**1.** Вылічы.

(1200 кг + 3800 кг) · 2    (4700 ц – 1400 ц) : 11

**2.** Плошча ўчастка зямлі пад агарод мае форму прамавугольніка і роўная 56 м$^2$. Знайдзі даўжыню адной стараны ўчастка, калі даўжыня другой стараны 14 м.

**1.** Знайдзі значэнні выразаў.

(46 + 69 + 23) : 6　　　　72 000 : 36 000

(129 + 364 – 309) · 5　　　　72 000 : 36

**2.** Вырзі ў кілаграмах.

5 т 20 кг　　5 т 2 ц　　5 т 20 ц　　5 т 2 ц 2 кг

**3.** Параўнай.

964 см ? 9 м 6 дм 4 см　　　5 дм 6 см 3 мм ? 563 мм

329 кг ? 3 т 2 ц 9 кг　　　1 ц 784 кг ? 1784 кг

**4.** Знайдзі значэнні выразу $2 \cdot a + a : 3 - a$ пры $a$, роўным 300; 30 000.

**5.** Дапоўні ўмову задачы данымі дыяграмы. Рашы задачу. У спартыўную школу ходзяць вучні першага, другога, трэцяга і чацвёртага класаў. Адна трэцяя частка вучняў трэцяга і чацвёртага класаў перамагла ў спаборніцтвах. Колькі вучняў стала пераможцамі?



**6.** Начарці квадрат, уздоўж стараны якога змяшчаецца 8 клетак ліста сшытка. Знайдзі плошчу квадрата ў квадратных сантыметрах. Колькі квадратных сантыметраў складае $\frac{1}{2}$ квадрата? $\frac{1}{4}$ квадрата ? $\frac{1}{8}$ квадрата?

**7.** Маса слана роўная масе 10 жырафаў. Маса жырафа 4 ц. Ежа, якую з'ядае чалавек на працягу свайго жыцця, прыкладна роўная па масе 4 сланам. Колькі кілаграмаў ежы ў сярэднім з'ядае чалавек за сваё жыццё?

**8.** Вялікі кубік пафарбавалі ў зялёны колер. Потым яго разрэзалі на маленькія кубікі.
Колькі маленькіх кубікаў атрымалася? Колькі атрымалася кубікаў, пафарбаваных зялёным колерам з трох бакоў? З двух бакоў? З аднаго боку?




**1.** Рашы ўраўненні.

$21\ 000 \cdot x = 84\ 000$ $\qquad$ $x \cdot 4 = 84\ 000$

$84\ 000 : x = 21\ 000$ $\qquad$ $x : 21\ 000 = 4$

**2.** Прывезлі 360 кг бульбы і 420 кг морквы. Моркву расфасавалі ў некалькі пакетаў па 7 кг у кожны. Для расфасоўкі бульбы спатрэбілася столькі ж пакетаў. Якая маса аднаго пакета з бульбай?

# Складанне і адніманне

**!** Параўнай вылічэнні. Растлумач.

$$\begin{array}{r} 267 \\ +\,431 \\ \hline 698 \end{array} \quad \begin{array}{r} 543\,267 \\ +\,132\,431 \\ \hline 675\,698 \end{array} \quad \begin{array}{r} 569 \\ -\,143 \\ \hline 426 \end{array} \quad \begin{array}{r} 874\,569 \\ -\,532\,143 \\ \hline 342\,426 \end{array}$$

Разважай так:

1. Каб выканаць складанне або адніманне мнагазначных лікаў, спачатку запішу іх у слупок, размясціўшы аднолькавыя разрады адзін пад адным.
2. Потым выканаю складанне або адніманне паразрадна, пачынаючы з разраду адзінак першага класа.

**1.** Запішы ў слупок. Вылічы.

3524 + 2265      218 025 + 451 275

6999 – 2873      798 549 – 264 318

**2.** Які з двух лікаў большы і на колькі большы?

572 999 і 30 854      6456 і 697 567

**3.** Рашы ўраўненні.

213 432 = 755 644 – $x$      325 893 = 114 112 + $x$

55 954 = $x$ – 21 632      865 489 = $x$ + 402 174

**4.** У 15 г 30 мін з двух гарадоў адначасова выехалі насустрач адзін аднаму два поезды. Паязды сустрэліся ў 19 г 30 мін. Скорасць першага поезда — 90 км/г, а другога — 70 км/г. Якая адлегласць паміж гарадамі?

**5.** Складзі і рашы задачу.

| Ёмістасць вядра, л | Колькасць вёдзер, шт. | Ёмістасць усіх вёдзер, л |
|---|---|---|
| аднолькавая | 3 | 24 |
| | 9 | ? |

**6.** Выразі ў сутках і гадзінах.

27 г 60 г 83 г 100 г

**7.** Запішы назвы ўсіх трохвугольнікаў, паказаных на малюнку. Назаві прамавугольныя, востравугольныя і тупавугольны трохвугольнікі.




Раскажы, як выканаць складанне і адніманне двух мнагазначных лікаў у слупок.

**1.** Запішы ў слупок. Вылічы.

710 314 + 154 123 113 256 + 41 313
282 373 – 141 162 564 894 – 13 682

**2.** Поезд ідзе ад аднаго горада да другога адны суткі. Чацвёртую частку сутак поезд ужо знаходзіўся ў дарозе. Колькі гадзін засталося ехаць поезду?

## Урок 46

**!** Параўнай вылічэнні. Растлумач.

$$\begin{array}{r} 385 \\ +\ 415 \\ \hline 800 \end{array} \qquad \begin{array}{r} 642385 \\ +\ 162415 \\ \hline 804800 \end{array}$$

**1.** Вылічы.

$$\begin{array}{r} 6524 \\ +\ 2246 \\ \hline \end{array} \qquad \begin{array}{r} 59129 \\ +\ 21731 \\ \hline \end{array} \qquad \begin{array}{r} 877425 \\ +\ 3335 \\ \hline \end{array} \qquad \begin{array}{r} 568972 \\ +\ 31028 \\ \hline \end{array}$$

**2.** Значэнне якой сумы меншае?
367 421 + 123 278 ці 143 562 + 366 437
358 347 + 41 661 ці 246 529 + 44 171

**3.** Знайдзі суму зручным спосабам.
340 + 450 + 660 + 550
1240 + 1510 + 2760 + 8490
2312 + 4646 + 3688 + 5354
73 + 126 + 27
14 + 319 + 86
46 + 899 + 54

**4.** Па раскладзе цягнік павінен прыбыць на станцыю ў 20 г 40 мін. Назаві час прыбыцця цягніка, калі ён спазніўся на:

30 мін   32 мін   1 г 32 мін

**5.** Пеця злавіў трох ляшчоў. Маса першага ляшча 450 г, што складае адну другую частку масы другога ляшча. Маса трэцяга ляшча ў 3 разы меншая за масу першых двух ляшчоў. Знайдзі масу кожнага ляшча.

**6.** На дыяграме паказана працягласць жыцця ў стагоддзях розных парод дрэў, якія растуць у Беларусі. Запішы назвы парод дрэў у парадку ўзрастання працягласці іх жыцця.




**7.** Галя дапамагала бабулі збіраць ураджай з яблыні. Пералічыўшы сарваныя яблыкі, яна падумала, што калі да гэтых яблыкаў дадаць палову іх і яшчэ дзясятак, то ў яе была б сотня яблыкаў. Колькі яблыкаў сарвала Галя?

Колькі адзінак аднаго разраду складаюць адну адзінку наступнага разраду?

**1.** Вылічы.

818 234 + 132 675 764 205 + 15 795

136 996 + 71 004 8398 + 201 011

**2.** Вася за 1 мін можа пафарбаваць 20 дм$^2$ плота, а Дзіма — толькі 15 дм$^2$. Ці зможа Дзіма пафарбаваць бóльшую плошчу плота за 7 мін, чым Вася за 5 мін?

**Параўнай вылічэнні. Растлумач.**

$$\begin{array}{r} -\,600 \\ 287 \\ \hline 313 \end{array} \qquad \begin{array}{r} -\,505600 \\ 333287 \\ \hline 172313 \end{array}$$

**1.** Вылічы.

$$\begin{array}{r} -\,8700 \\ 4563 \\ \hline \end{array} \qquad \begin{array}{r} -\,53400 \\ 23233 \\ \hline \end{array} \qquad \begin{array}{r} -\,480600 \\ 156478 \\ \hline \end{array} \qquad \begin{array}{r} -\,1000000 \\ 639054 \\ \hline \end{array}$$

**2.** Знайдзі значэнні выразаў.

3496 + (13 678 – 2168)  150 000 · 2 – 2381

296 543 – 83 223 + 46 680  32 050 – 7200 : 3

**3.** Знайдзі значэнні выразаў.

- 462 : $a$ пры $a$, роўным 2, 3, 7, 462, 1.
- 124 · $b$ пры $b$, роўным 3, 4, 5, 0, 1.

**4.** Параўнай.

6 г 10 мін ? 350 мін  270 с ? 4 мін 30 с

34 кг 8 г ? 3408 г  48 000 кг ? 480 т

8 дм$^2$ ? 83 см$^2$  800 см$^2$ ? 8 дм$^2$

**5.** Якія выразы падыходзяць да ўмовы задачы?

У магазін прывезлі 16 000 альбомаў у каробках па $a$ штук у кожнай і 5700 кніг у каробках па $b$ штук у кожнай.

16 000 : $a$  16 000 · $a$  5700 : $b$

16 000 : $a$ + 5700 : $b$  16 000 + 5700  5700 · $b$

**6.** Чатыры снегаўборачныя машыны, працуючы разам, могуць за 2 г ачысціць 48 км дарогі, шырыня якой 9 м. Ці змогуць гэтыя машыны расчысціць за 6 г участак такой дарогі даўжынёй 100 км?

**7.** Адкажы на пытанне задачы 6, калі тыя ж машыны будуць расчышчаць дарогу, шырыня якой у 2 разы большая.

**8.** Начарці прамавугольнік, уздоўж даўжыні якога змяшчаецца 16 клетак сшытка, а ўздоўж шырыні — 8 клетак. Запішы, колькі клетак змяшчаецца:

у гэтым прамавугольніку; у $\frac{1}{2}$ частцы прамавугольніка; $\frac{1}{8}$ частцы прамавугольніка; у $\frac{1}{16}$ частцы прамавугольніка.

Вызнач плошчу прамавугольніка ў квадратных сантыметрах.

Колькі соцень тысяч змяшчаецца ў адным мільёне?
Колькі дзясяткаў тысяч змяшчаецца ў адной сотні тысяч?

**1.** Вылічы.

403 070 – 151 436
29 632 + 10 368
900 600 – 114 352
1 000 000 – 2761

**2.** Шырыня прамавугольніка роўная 8 дм, што складае $\frac{1}{3}$ частку яго даўжыні. Знайдзі перыметр і плошчу прамавугольніка.

**!** Параўнай вылічэнні. Растлумач.

$$\begin{array}{r} +\,367 \\ 276 \\ \hline 643 \end{array} \qquad \begin{array}{r} +\,785367 \\ 123276 \\ \hline 908643 \end{array}$$

**1.** Вылічы.

1098 + 6093 341 279 + 537 191
5152 + 3763 646 208 + 254 277

**2.** Састаў ураўненні і рашы іх.

- Нейкі лік павялічылі ў 190 разоў і атрымалі 760.
- Нейкі лік паменшылі ў 280 разоў і атрымалі 3.

**3.** Знайдзі суму двух лікаў, калі:

- адзін лік — 130, і ён большы на 65 за другі;
- адзін лік — 720, і ён меншы на 280 за другі.

**4.** На адной машыне можна перавезці 25 ц грузу, а на другой — на 5 ц больш. Ці змогуць гэтыя дзве машыны за 6 рэйсаў перавезці 400 ц грузу?

**5.** У трохвугольніку *ABC* старана *AB* роўная 6 см 4 мм. Гэта старана на 12 мм карацейшая за старану *BC* і на 1 см 6 мм даўжэйшая за старану *AC*. Вылічы перыметр трохвугольніка.

**6.** Вылічы перыметр трохвугольніка *ABC*, калі даўжыню кожнай яго стараны павялічыць у 2 разы; паменшыць у 2 разы.

**7.** Вызнач па праграме тэлеперадач, колькі часу доўжылася кожная перадача.

| Час | Назва перадачы |
|---|---|
| 8.00 | Добрай раніцы! |
| 8.15 | Пад купалам цырка |
| 8.45 | Музычная скарбонка |
| 9.00 | Мультфільмы |
| 9.30 | Навіны |
| 9.55 | Прагноз надвор'я |

**8.** Даша паглядзела ў люстэрка і ўбачыла, што гадзіннік, адлюстраваны ў ім, паказвае 6 г 50 мін. Колькі часу паказвае гадзіннік?



Чаму складанне і адніманне мнагазначных лікаў у слупок пачынаюць з разраду адзінак першага класа?

**1.** Вылічы.

4568 + 1625 58 402 + 20 898

6328 + 3673 357 874 + 284 367

**2.** Першая брыгада можа адрамантаваць 180 м дарогі за 6 дзён, а другая — за 3 дні. За колькі дзён можна адрамантаваць гэту дарогу, калі абедзве брыгады будуць працаваць разам?

# Урок 49

Параўнай вылічэнні. Растлумач.

$$\begin{array}{r} - \begin{array}{r} 623 \\ 287 \end{array} \\ \hline 336 \end{array} \qquad \begin{array}{r} - \begin{array}{r} 305623 \\ 141287 \end{array} \\ \hline 164336 \end{array}$$

**1.** Вылічы. Выканай праверку.

672 254 – 564 394 927 506 – 517 835
3245 – 1067 45 084 – 36 946

**2.** Знайдзі прапушчаныя лікі.

| $a$ | 56 201 | 70 001 | ? |
|---|---|---|---|
| $b$ | 8384 | ? | 7661 |
| $a + b$ | ? | 99 877 | ? |
| $a - b$ | ? | ? | 28 303 |

**3.** Сярод лікаў 10, 20, 30, 500, 1000 знайдзі тыя, пры якіх няроўнасці будуць правільныя.

$a + 152 < 200$ $349 - a > 300$
$10 \cdot a < 400$ $a : 4 > 100$

**4.** Тыгр прабег 600 м са скорасцю 15 м/с. За які час тыгр прабег гэту адлегласць? За які час прабяжыць гэту адлегласць Пеця, калі будзе бегчы са скорасцю 6 м/с?

**5.** Даўжыня ракі Заходняя Дзвіна — 1020 км. Гэта рака цячэ па тэрыторыі Расіі, Беларусі, Латвіі. Частка яе даўжыні ў Расіі складае 325 км, што на 42 км менш, чым у Латвіі. Якая даўжыня часткі Дзвіны ў Беларусі?




**6.** Пункты *A*, *B* і *C* размешчаны на адной прамой. Пункт *A* знаходзіцца на адлегласці 20 см 8 мм, а пункт *B* — на адлегласці 13 см 5 мм ад пункта *C*. Знайдзі адлегласць паміж пунктамі *A* і *B*. Разгледзь магчымыя варыянты.

**7.** Ігар прайшоў па прамой ад ліхтара 600 м, а потым павярнуў направа і прайшоў 60 м, затым зноў павярнуў направа і прайшоў яшчэ 200 м, і нарэшце зноў павярнуў направа і прайшоў яшчэ 60 м. Як далёка апынуўся Ігар ад ліхтара?

? Вырази ў тысячах: 1 дзяс. тыс. і 5 адз. тыс.
Вырази ў дзясятках тысяч: 1 сот. тыс. і 9 дзяс. тыс.

**1.** Вылічы. Выканай праверку адніманнем.

20 416 – 11 389 156 749 – 63 851

**2.** Рабочы вытачыў на станку 7 дэталей за 3 г 30 мін, а станок-аўтамат вытачыў 15 такіх жа дэталей за 2 г 30 мін. У колькі разоў менш часу на выраб адной дэталі трэба станку, чым рабочаму?

**1.** Вылічы.

234 567 + 212 311
655 508 + 38 194
80 214 + 190 347

87 823 + 13 184 + 2030
59 063 + 134 814 + 27 854
124 301 + 4345 + 249

**2.** Вылічы.

29 432 – 13 111
458 361 – 251 759
10 000 – 7344

365 004 – 166 543
111 111 – 44 444
1 000 000 – 1259

**3.** Параўнай.

3000 + 200 + 5 ? 5 + 20 + 3000
28 000 + 10 + 4 ? 4 + 100 + 28 000
151 + (249 + 174) ? 174 + (151 + 249)
648 – (524 – 23) ? 648 – 524 – 23

**4.** Састаў выраз.

Памяншаемае — 800, аднімаемае — на $a$ меншае.

Знайдзі значэнні састаўленага выразу пры $a$, роўным: 34, 148, 375, 800.

**5.** Даўжыні старон прамавугольніка *ABCD* роўныя 4 см і 3 см. Начарці гэты прамавугольнік. Знайдзі яго плошчу.

**6.** Даўжыню прамавугольніка з задачы 5 павялічылі ў 2 разы. Падумай, як змянілася яго плошча. Правер сваё меркаванне вылічэннем.

**7.** Вядомы мараплавец Хрыстафор Калумб упершыню прыплыў у Амерыку ў 1492 г. У якім стагоддзі гэта адбылося? Колькі стагоддзяў прайшло з таго часу?



**8.** Колькі кубікаў спатрэбілася для кожнай вежы?



**1.** Вылічы.

546 123 + 89 713

804 305 – 92 638

150 096 + 119 388

602 524 – 91 347

**2.** Для рамонту двух дамоў купілі лінолеум агульнай плошчай 1500 м$^2$. На рамонт аднаго дома пайшло ў 2 разы больш квадратных метраў лінолеуму, чым на рамонт другога дома. Колькі квадратных метраў лінолеуму пайшло на рамонт кожнага дома?

**1.** Знайдзі значэнні выразаў.
(4038 + 19 683) – (5387 + 8293)
(72 054 – 8958) + (240 000 – 57 236)

**2.** Устаў прапушчаныя лічбы.

$$\begin{array}{r} 6{*}87 \\ +\;{*}4{*}8 \\ \hline 10385 \end{array} \qquad \begin{array}{r} 4{*}{*}{*}{*}{*} \\ +\;13926 \\ \hline 575201 \end{array} \qquad \begin{array}{r} 5816 \\ -\;{*}8{*} \\ \hline {*}3{*}7 \end{array}$$

**3.** Вылічы.
1549 + 13 000 + 5451 3251 + 72 000 + 6749

**4.** Выразі ў секундах.
4 мін 6 мін 60 с 5 мін 8 с

**5.** Выразі ў метрах.

| | | |
|---|---|---|
| 4000 см | 40 дм | 44 км |
| 4 км 4 м | 4 км 400 м | 4 км 40 м |
| 400 дм | 40 000 мм | 400 000 мм |

**6.** Прайшла $\frac{1}{3}$ частка 2012 года. Колькі дзён прайшло, калі гэты год быў высакосны?

**7.** Якой была адлегласць паміж прыстанямі, калі палову гэтай адлегласці катар прайшоў за 3 г са скорасцю 25 км/г?

**8.** Замяні лікі ва ўмове задачы 7 так, каб адказ атрымаўся меншы.

**9.** Маса 4 аднолькавых падручнікаў па матэматыцы роўная 1200 г. Якая маса 8 такіх падручнікаў?

**10.** Выберы правільную дыяграму.
Купілі дзве навагоднія гірлянды аднолькавай даўжыні. Адну з іх разрэзалі на 2 часткі. Атрымалася 3 гірлянды.







**11.** Знайдзі плошчу фігур двума спосабамі: з дапамогай палеткі і падзяліўшы яе на прамавугольнікі.



**1.** Знайдзі значэнне выразу.
(800 301 – 56 422) + (363 636 – 182 828)

**2.** За 5 с Кастусь прабег 30 м. Колькі метраў ён прабяжыць за 10 с, калі яго скорасць не зменіцца?

**!** Параўнай рашэнні ўраўненняў. Растлумач.

| | |
|---|---|
| $x + 542 = 799$ | $x + 63\,542 = 99\,799$ |
| $x = 799 - 542$ | $x = 99\,799 - 63\,542$ |
| $\underline{x = 257}$ | $\underline{x = 36\,257}$ |
| $257 + 542 = 799$ | $36\,257 + 63\,542 = 99\,799$ |

**1.** Рашы ўраўненні. Выканай праверку.
$x + 34\,746 = 243\,908$ $a + 936 = 14\,465$

**2.** Рашы ўраўненні. Выканай праверку.
$x - 4667 = 34\,609$ $8034 - k = 520$

**3.** З 13 м тканіны можна пашыць 3 сукенкі. Колькі такіх сукенак можна пашыць з 26 м тканіны?




Разважай так:
1. Я не магу даведацца, колькі тканіны пойдзе на адну сукенку, таму што 13 не дзеліцца на 3 без астачы.
2. Але я магу даведацца, у колькі разоў другі кавалак тканіны большы за першы.
3. У столькі ж разоў больш сукенак павінна атрымацца з другога кавалка тканіны, чым з першага.

**4.** За 8 г майстар вырабляе 36 дэталей. Колькі дэталей ён можа зрабіць за 2 гадзіны?

**5.** Вылічы.

466 : 2　　354 : 6　　415 : 5　　168 : 4
198 : 6　　896 : 8　　468 : 9　　200 : 5

**6.** Колькі сутак утрымліваюць:

усе вясеннія месяцы　　усе летнія месяцы
усе асеннія месяцы　　усе зімнія месяцы

**7.** Колькі гадоў утрымліваюць:

3 стагоддзі　　6 стагоддзяў
9 стагоддзяў і 51 год　　9 стагоддзяў і 100 гадоў

**8.** Пеця начарціў прамавугольнік плошчай 40 см$^2$. Якімі могуць быць даўжыні старон гэтага прамавугольніка?

**9.** У доме 4 паверхі. На кожным паверсе жыве па адной сям'і. Сяровы жывуць пад Бяловымі, Красновы — над Чарновымі і Бяловы — пад Чарновымі. Размясці жыхароў па паверхах.

Як знайсці невядомае складаемае? Невядомае памяншаемае? Невядомае аднімаемае?

**1.** Рашы ўраўненні.

$x - 1608 = 7392$　　$18\,779 + x = 103\,425$
$70\,000 - x = 4791$　　$x + 278\,645 = 574\,582$

**2.** Прывезлі 8 скрынак вінаграду па 5 кг у кожнай скрынцы. Увесь вінаград расфасавалі ў пакеты па 2 кг у кожны. Колькі пакетаў атрымалася?

Два катары адначасова адышлі ад прыстані ў супрацьлеглых напрамках. Скорасць першага катара 30 км/г, а скорасць другога — 40 км/г. За які час яны будуць на адлегласці 210 км адзін ад аднаго?




Спачатку даведаемся, на колькі кіламетраў аддаляліся катары за 1 гадзіну (скорасць аддалення).

Потым даведаемся, за які час яны змаглі аддаліцца адзін ад аднаго на 210 км.




**1.** Два лыжнікі выйшлі адначасова з аднаго пасёлка ў супрацьлеглых напрамках. Іх скорасці 15 км/г і 17 км/г. За які час адлегласць паміж імі стане 96 км?

**2.** Рашы ўраўненні.

| | |
|---|---|
| $50\ 006 - x = 49\ 657$ | $x - 18\ 624 = 1881$ |
| $365 + x = 80\ 002$ | $x + 8903 = 37\ 000$ |

**3.** Перавядзі ў тоны і цэнтнеры.

| | | |
|---|---|---|
| 3400 кг | 648 ц | 8 т 200 кг |
| 19 500 кг | 1352 ц | 4 т 1600 кг |

**4.** На 3 пірагі пайшло 1300 г мукі. Колькі мукі спатрэбіцца для 9 такіх пірагоў?

**5.** Поезд выйшаў з Гомеля ў 17 г 15 мін і прыбыў у Мінск у 22 г 15 мін. Ад Гомеля да Мінска 320 км. Знайдзі скорасць руху поезда.

**6.** На якіх гадзінніках паказаны час адпраўлення поезда з Гомеля і час прыбыцця поезда ў Мінск? Прачытай паказанні гадзіннікаў з дапамогай слоў «палова», «чвэрць».



**7.** Старана квадрата роўная $a$ дм. Састаў выраз для знаходжання перыметра квадрата. Знайдзі значэнні для выразу пры $a$, роўным 5 м 4 дм, 620 см.

**?** Знайдзі скорасць аддалення двух хлопчыкаў, калі вядома, што адзін з іх праходзіць 3 км за адну гадзіну, а другі — 4 км за адну гадзіну.

**1.** Знайдзі значэнні выразаў.
39 179 + 16 777 – 15 868 218 · 2 + 178 : 2

**2.** Парусная лодка за 4 г праплыла 33 км. Колькі кіламетраў яна праплыве за 8 г, рухаючыся з той жа скорасцю?

Для вымярэння вялікіх плошчаў выкарыстоўваюць адзінку плошчы — **гектар**.

Плошча квадрата з даўжынёй стараны 100 м роўная аднаму гектару (1 га).

Гектар — гэта адзінка плошчы.

У адным гектары сто соцень квадратных метраў, або дзесяць тысяч квадратных метраў.

$$1 \text{ га} = 10\,000 \text{ м}^2$$

**1.** Колькі квадратных метраў у двух гектарах? У пяці гектарах?

**2.** Вырazі ў квадратных метрах.

| | | |
|---|---|---|
| 8 га | 24 га | 6 га 1325 м$^2$ |
| 3 га | 14 га | 7 га 136 м$^2$ |

**3.** Вырaзі ў гектарах.

40 000 м$^2$ 240 000 м$^2$ 120 000 м$^2$

**4.** Знайдзі:

$\frac{1}{2}$ гектара $\frac{1}{4}$ гектара

$\frac{1}{5}$ гектара $\frac{1}{10}$ гектара

**5.** Замест * устаў патрэбныя лічбы.

$$\begin{array}{r} 46*87 \\ +\ 3*465 \\ 587* \\ \hline 88425 \end{array} \qquad \begin{array}{r} 56*48 \\ +\ *461 \\ 451** \\ \hline 103054 \end{array}$$

**6.** Трактарысту патрэбна ўзараць 12 га поля. Ён ужо ўзараў $\frac{1}{6}$ яго частку. Колькі гектараў поля ўзараў трактарыст? Колькі квадратных метраў поля ўзараў трактарыст?

**7.** Аўтамабіль і матацыкл у 15 г адначасова ад'ехалі ад запраўкі ў супрацьлеглых напрамках і спыніліся, калі адлегласць паміж імі стала 760 км. А якой гадзіне яны зрабілі прыпынак, калі аўтамабіль ехаў са скорасцю 90 км/г, а матацыкл — 100 км/г?

**8.** Пабудуй прамавугольны трохвугольнік па ўзоры.




Якая даўжыня стараны квадрата, плошча якога 1 га?

**1.** Знайдзі значэнні выразаў.
500 300 – 70 618 + 470 318
$25 \cdot 3 + 82 : 2$

**2.** Міша і Рыгор адначасова выйшлі з пад'езда дома і пайшлі ў супрацьлеглых напрамках. Міша ішоў са скорасцю 60 м/мін, і Рыгор — з той жа скорасцю. За які час адлегласць паміж імі будзе роўная 480 м?

**!** Разгледзь і параўнай дыяграмы. Вызнач, колькі дрэў кожнага віду пасадзілі.







**1.** Дапоўні ўмову задачы данымі дыяграмы. Рашы задачу. Сабралі … ц буракоў, … ц морквы і … ц бульбы. Увесь ураджай звезлі ў тры сховішчы пароўну ў кожнае. Колькі цэнтнераў гародніны прывезлі ў кожнае сховішча?



**2.** Знайдзі значэнні выразаў.

$(2643 - 2381) \cdot 3 + 214$ $\qquad$ $840\,000 : 12$

$497 : 7 + 700 \cdot 2 - 700$ $\qquad$ $840\,000 : 2$

**3.** Рашы ўраўненні.

$129\,483 = 247\,635 - x$ $\qquad$ $800\,000 = x + 672\,105$

$25\,998 = y - 14\,007$ $\qquad$ $700\,700 = 504\,961 + y$

**4.** Плошча першага ўчастка 27 га. Гэта ў 3 разы менш за плошчу другога ўчастка. Знайдзі палову плошчы гэтых двух участкаў.

**5.** За 5 г машына праехала 473 км. Колькі кіламетраў праедзе машына за 10 г, рухаючыся з той жа скорасцю?

**6.** Пабудуй прамавугольны трохвугольнік з даўжынямі старон 3 см і 4 см так, як паказана на рысунку. Вымерай даўжыню трэцяй стараны.




Адна паласа на дыяграме ў 2 разы даўжэйшая за другую. Выберы пары лікаў, якія могуць быць прадстаўлены на такой дыяграме.

2 і 4 $\quad$ 20 і 40 $\quad$ 3 і 9 $\quad$ 100 і 200 $\quad$ 30 і 90

**1.** Параўнай.

$5049 + 1999$ ? $6 \cdot 120$

$4024 - 3949$ ? $800 : 200$

**2.** Старана квадрата 9 см. Знайдзі перыметр і плошчу гэтага квадрата.

**1.** Знайдзі значэнні выразаў.

384 : 2  
384 : 3  
384 : 4  
384 : 6

369 + (243 – 155) + (853 + 967)  
201 004 – (73 681 – 1895)  
2 · 4600 + (993 993 – 84 848)  
40 297 – (1692 + 5024)

**2.** Састаў выразы і знайдзі іх значэнні.

- Рознасць, у якой памяншаемае выражана здабыткам лікаў 350 і 7, а аднімаемае — 2058.
- Дзель, у якой дзялімае прадстаўлена сумай лікаў 64 505 і 89 095, а дзельнік — рознасцю лікаў 1000 і 999.

**3.** Знайдзі значэнні выразаў пры $m = 3$, $n = 5$.

$150 \cdot m : n$  $150 \cdot n : m$  $150 : (m \cdot n)$

**4.** Складзі ўмову задачы, выкарыстоўваючы даныя дыяграмы. Рашы задачу.

Якая маса 5 кабачкоў і 2 гарбузоў?



**5.** Параўнай.

$\frac{1}{4}$ м ? 25 см

$\frac{1}{10}$ км ? 1000 м

50 кг ? $\frac{1}{2}$ т

2000 $м^2$ ? $\frac{1}{5}$ га

**6.** Знайдзі плошчу квадрата з даўжынёй стараны $\frac{1}{10}$ м.

**7.** Начарці квадрат, плошча якога ў 4 разы меншая за плошчу квадрата з задачы 6.

**8.** З аднаго аўтавакзала выйшлі адначасова ў супрацьлеглых напрамках два аўтобусы і спыніліся, калі адлегласць паміж імі стала 900 км. Скорасць першага аўтобуса была 70 км/г, што на 10 км/г менш за скорасць другога аўтобуса. Колькі часу аўтобусы былі ў дарозе?

**9.** Даўжыня ракі Дняпро 2145 км. Дняпро на 1215 км даўжэйшы за Нёман. Якая даўжыня ракі Свіслач, калі яна прыблізна ў 3 разы карацейшая за Нёман? Знайдзі гэтыя рэкі на карце Беларусі.

**1.** Знайдзі значэнні выразаў.

$9 \cdot (40\,100 - 39\,900)$ $\qquad$ $(212 : 4 + 152) \cdot 4$

**2.** З адной яблыні сабралі 6 аднолькавых скрынак яблыкаў, а з другой — 3 такія ж скрынкі. Усяго з дзвюх яблынь сабралі 270 кг пладоў. Колькі кілаграмаў яблыкаў сабралі з кожнай яблыні?

**1.** Састаў выразы і знайдзі іх значэнні.

| Памяншаемае | 1514 + 653 | 2 · 2700 | 42 100 : 100 |
|---|---|---|---|
| Аднімаемае | 194 + 1932 | 2 · 98 | 421 000 : 1000 |

**2.** Параўнай.

70 мм ? 7 см
200 см ? 2 м
4 дм ? 4 м

10 000 м ? 1 км
30 дм ? 3 м
500 м ? 5 км

**3.** Замест * устаў прапушчаныя лічбы.

$$+\begin{array}{r} 4\ast \\ \underline{3\ast 1} \\ \ast 38 \end{array} \qquad +\begin{array}{r} \ast 8 \\ \underline{\ast 0\ast} \\ 700 \end{array} \qquad -\begin{array}{r} \ast 25 \\ \underline{\ast 6} \\ 48\ast \end{array} \qquad -\begin{array}{r} 1\ast 0\ast \\ \underline{7\ast 7} \\ \ast 06 \end{array}$$

**4.** Замест * устаў прапушчаныя лічбы.

**** + 1 = ** ***

*** *** – ** *** = 1

**5.** Запішы, якая частка адрэзка чырвонага колеру.



**6.** Падбяры значэнні скорасці, якія падыходзяць. Рашы задачу.

З двух гарадоў насустрач адзін аднаму выйшлі адначасова два цягнікі. Першы з іх ішоў са скорасцю …, а другі — … . Праз 8 г цягнікі сустрэліся. Знайдзі адлегласць паміж гарадамі.

3 км/г | 80 км/г | 1 км/мін | 90 км/г | 4500 км/г

**7.** Вызнач стагоддзе.

1067 г. 567 г. 1945 г. 2017 г.

**8.** Вызнач на вока даўжыні адрэзкаў. Правер сябе, выканаўшы вымярэнні з дапамогай лінейкі.




**9.** Выразі ў квадратных сантыметрах.

8 дм$^2$ 3 м$^2$ 4 дм$^2$ 100 см$^2$ 3 м$^2$ 500 см$^2$

**10.** Выразі ў метрах; у сантыметрах.

4 км 4 км 364 м 4 км 15 м

**11.** У некалькі школьных буфетаў развезлі 7500 пакетаў кефіру і малака. Кожны буфет атрымаў па 25 пакетаў кефіру, а малака — у тры разы больш, чым кефіру. Колькі школьных буфетаў атрымалі малако і кефір?

**1.** Рашы ўраўненні.

$2367 + x = 5010$ $x \cdot 8 = 256$

$30\,816 - x = 958$ $x : 6 = 123$

**2.** Трэцюю частку высакоснага года геолагі правялі ў экспедыцыі. Палову часу, праведзенага ў экспедыцыі, яны працавалі ў тайзе. Колькі сутак геолагі працавалі ў тайзе?

Два трактары адначасова выехалі з вёскі ў супрацьлеглых напрамках. Праз 2 г адлегласць паміж імі стала роўнай 100 км. Знайдзі скорасць першага трактара, калі скорасць другога трактара 30 км/г.




Растлумач па схемах розныя спосабы рашэння.

*Спосаб 1*




*Спосаб 2*




1. Два верталёты вылецелі з аэрадрома ў супрацьлеглых напрамках. Праз 3 г адлегласць паміж імі стала 1200 км. Першы верталёт ляцеў са скорасцю 170 км/г. Знайдзі скорасць другога верталёта.

2. Чатыры трактары ўзаралі 1700 га зямлі пароўну кожны. Колькі гектараў могуць узараць дванаццаць такіх трактароў?

**3.** Вылічы.

| | | | |
|---|---|---|---|
| $127 \cdot 4$ | $924 : 6$ | $135 \cdot 7$ | $657 : 3$ |
| $328 \cdot 3$ | $741 : 3$ | $216 \cdot 3$ | $925 : 5$ |

**4.** Знайдзі прапушчаныя лікі.

| $a$ | 120 | ? | 4800 |
|---|---|---|---|
| $b$ | 6 | 7 | ? |
| $a \cdot b$ | ? | 9800 | ? |
| $a : b$ | ? | ? | 2400 |

**5.** Пабудуй прамавугольны трохвугольнік з даўжынямі старон, пазначанымі на чарцяжы.




**6.** Падумай, як можна вылічыць плошчу трохвугольніка з задачы 5 у квадратных сантыметрах.

**?** Скорасць аддалення дзвюх машын была 170 км/г. З якімі скарасцямі маглі ехаць гэтыя машыны?

**1.** Знайдзі значэнні выразу $(3 \cdot a - 4) : 2$ пры $a$, роўным 60, 180, 290.

**2.** Каб пафарбаваць аўтамабіль, патрэбна 280 г фарбы, а каб пафарбаваць прычэп — 220 г фарбы. Колькі грамаў фарбы трэба для афарбоўкі 3 аўтамабіляў з прычэпамі?

**!** Разгледзь два спосабы вылічэнняў:

12 км 285 м + 13 км 57 м = ?

① 12 км 285 м = 12 285 м
13 км 57 м = 13 057 м

$$\begin{array}{r} 12285 \\ +\ 13057 \\ \hline 25342 \end{array}$$

25 342 м = 25 км 342 м

②

$$\begin{array}{r} 12\text{ км }285\text{ м} \\ +\ 13\text{ км }057\text{ м} \\ \hline 25\text{ км }342\text{ м} \end{array}$$

**1.** Вылічы.

46 км 136 м + 12 км 243 м
89 км 656 м – 34 км 230 м
61 км 403 м + 25 км 42 м
124 дм 16 см + 49 дм 49 см

136 м + 243 м
656 м – 230 м
403 м + 42 м
16 см + 49 см

**2.** Вылічы двума спосабамі па ўзоры. Растлумач.

3 м – 29 см
4 км – 254 м

12 дм – 8 см
8 км – 365 дм

3 м – 29 см = 2 м 71 см

① 3 м = 300 см

$$\begin{array}{r} 300 \\ -\ 29 \\ \hline 271 \end{array}$$

271 см = 2 м 71 см

② 3 м = 3 м 00 см

$$\begin{array}{r} 3\text{ м }00\text{ см} \\ -\ 29\text{ см} \\ \hline 2\text{ м }71\text{ см} \end{array}$$

**3.** Якія лікі прапушчаныя?

$48 : ? = 3$ $\quad$ $2 \cdot ? \cdot 4 = 32$ $\quad$ $5 \cdot ? \cdot 2 = 50$

$80 : ? = 5$ $\quad$ $7 \cdot ? \cdot 3 = 42$ $\quad$ $23 \cdot 3 \cdot ? = 69$

**4.** Знайдзі найбольшае значэнне пераменных, пры якіх няроўнасці будуць правільныя.

$a + 10 < 148$ $\quad$ $p \cdot 2 < 200$

**5.** Ліса і барсук уцякаюць адно ад аднаго ад адной нары ў супрацьлеглых напрамках. Праз 5 мін адлегласць паміж імі стала 2500 м. З якой скорасцю бегла ліса, калі барсук бег са скорасцю 200 м/мін?

**6.** Начарці ўсе магчымыя адрэзкі з канцамі ў пунктах *M*, *K*, *N* і *L*. Выпішы назвы ўсіх адрэзкаў.




Растлумач, як вылічыць двума спосабамі.

16 дм 5 см – 4 дм 3 см

**1.** Вылічы.

890 км 456 м – 48 км 398 м $\quad$ 2 м – 13 см

67 дм 48 см + 56 дм 13 см $\quad$ 24 км – 25 м

**2.** З адной і той жа станцыі адправіліся адначасова ў супрацьлеглых напрамках цягнік і аўтобус. Скорасць цягніка была 65 км/г. Знайдзі скорасць аўтобуса, калі праз 3 г адлегласць паміж імі стала 465 км.

Разгледзь два спосабы вылічэнняў.

204 кг 347 г + 28 кг 45 г = ?

①

204 кг 347 г = 204 347 г

28 кг 45 г = 28 045 г

$$\begin{array}{r} 204347 \\ +\ \ 28045 \\ \hline 232392 \end{array}$$

232 392 г = 232 кг 392 г

②

$$\begin{array}{r} 204 \text{ кг } 347 \text{ г} \\ +\ \ 28 \text{ кг } \ \ 45 \text{ г} \\ \hline 232 \text{ кг } 392 \text{ г} \end{array}$$

**1.** Вылічы.

509 кг 299 г + 129 кг 78 г

342 т 867 кг + 378 т 109 кг

409 т 8 ц – 230 т 9 ц

17 ц 23 кг + 12 ц 45 кг

**2.** Вылічы двума спосабамі па ўзоры. Растлумач.

6 кг – 324 г  
7 ц – 58 кг

14 т – 9 ц  
5 т – 413 кг

6 кг – 324 г = 5 кг 676 г

①

6 кг = 6000 г

$$\begin{array}{r} 6000 \\ -\ \ 324 \\ \hline 5676 \end{array}$$

5676 г = 5 кг 676 г

②

6 кг = 6 кг 000 г

$$\begin{array}{r} 6 \text{ кг } 000 \text{ г} \\ -\ \ 324 \text{ г} \\ \hline 5 \text{ кг } 676 \text{ г} \end{array}$$

**3.** Выканай дзяленне з астачай і яго праверку.

937 : 4  377 : 5  6 : 19  11 : 20

**4.** Знайдзі значэнні выразаў.

$8 \cdot (4 \cdot 150)$ $5 \cdot (1400 \cdot 5)$ $2 \cdot (15\,000 \cdot 6)$

**5.** Трыццаць тры багатыры з'ядаюць на снеданне 59 кг кашы. Колькі кашы трэба зварыць для 99 багатыроў, калі кожны багатыр з'ядае на снеданне аднолькавую колькасць кашы?

**6.** Саша на дыяграме паказаў, колькі грыбоў кожнага віду ён знайшоў. Яго сястра Света знайшла ў 2 разы менш грыбоў кожнага віду. Пабудуй у сшытку дыяграму, на якой будзе паказана, колькі грыбоў кожнага віду знайшла Света.




? Растлумач, як выканаць складанне і адніманне значэнняў масы двума спосабамі: 32 кг 200 г і 16 кг 100 г.

**1.** Вылічы.

95 т 35 кг – 68 т 29 кг

44 кг 132 г + 18 кг 98 г

56 т 9 ц + 33 т 2 ц

22 ц 44 кг – 19 ц 8 кг

**2.** Лыжнік прайшоў спачатку 12 км 700 м, а потым яшчэ 23 км 300 м. Увесь гэты шлях ён пераадолеў за 3 г. За які час ён пройдзе 48 км, ідучы з той жа скорасцю?

**1.** Да якога двухзначнага ліку трэба дадаць адзінку, каб атрымаць трохзначны лік?
Да якога пяцізначнага ліку трэба дадаць адзінку, каб атрымаць шасцізначны лік?

**2.** Прачытай лікі і прадстаў іх у выглядзе сумы разрадных складаемых.

6341    240 103    307 005    50 005    101 010

**3.** Запішы замест зорачак лічбы так, каб няроўнасці былі правільныя.

*49 645 < 438 003      63 350 > 63 21*
657 200 > 6*7 200      42* 501 < 425 347

**4.** Знайдзі сумму лікаў.

2378 і 5431      0 і 254 123      56 094 і 3973
514 і 0      1 і 999 999      72 001 і 7997

**5.** Знайдзі рознасць лікаў.

3245 і 1032      45 084 і 36 946
130 052 і 73 967      620 000 і 0
910 000 і 98 563      1 000 000 і 1

**6.** Выразі ў кілаграмах.

2 т 238 кг    340 т 2 кг    4 т 8 ц    7 т 7 ц 7 кг

**7.** Выразі ў сантыметрах.

8 дм      30 дм 4 см      8 м      11 м 7 см
4000 мм      5 м 40 см      50 м 4 см      13 дм

**8.** Выразі ў секундах.

9 мін | 6 мін 5 с | 7 мін 45 с

**9.** Вылічы.

6 км 347 м + 42 км 589 м
37 м 57 см – 24 м 88 см
47 кг 117 г + 36 кг 54 г
15 т 6 ц – 7 т 8 ц

**10.** Вылічы.

4 км – 723 м
12 м – 24 см
15 ц – 82 кг
23 т – 2 ц

**11.** Вылічы.

$122 \cdot 5$ $\quad 408 \cdot 2$ $\quad 4 \cdot 204$
$8 \cdot 134$ $\quad 205 \cdot 3$ $\quad 460 \cdot 2$
$924 : 6$ $\quad 657 : 3$ $\quad 720 : 4$
$741 : 3$ $\quad 125 : 5$ $\quad 159 : 3$

**12.** Вылічы і выканай праверку.

258 + 537 $\quad$ 734 – 307 $\quad$ 988 : 4
218 + 382 $\quad$ 920 – 474 $\quad$ 594 : 3

**13.** Вылічы.

$32 \cdot 9 : 4 + 23\,508$
$540 : 6 + 155 : 5$
$78 : 26 \cdot 144 - 200$
$720 : 9 + 234 + 679$

**14.** У заапарку за два месяцы морж можа з'есці 6 ц рыбы. Колькі рыбы можа з'есці морж у заапарку за год?

**15.** Вызнач, пры якіх значэннях пераменных роўнасці будуць правільныя.

$6 \cdot a + 4 \cdot a = 5 \cdot 6 + 5 \cdot 4$

$12 \cdot a - 8 \cdot a = 2 \cdot 12 - 8 \cdot 2$

$(4 + 5) \cdot 15 = a \cdot 15 + 5 \cdot 15$

$(10 - 6) \cdot 16 = 10 \cdot 16 - a \cdot 16$

**16.** Два смаўжы ў 18 г папаўзлі ад адной кветкі ў супрацьлеглых напрамках са скарасцямі 4 м/мін і 3 м/мін. Ці паспеюць яны да 18 г 5 мін аддаліцца адзін ад аднаго на 49 м?

**17.** Складзі ўмову і рашы задачу.
Колькі цэнтнераў грузу вывезлі за 6 дзён?



**18.** Якія даныя з табліцы можна паказаць на дыяграме? Пабудуй дыяграму.

| Горад | Герб | Узрост (у стагоддзях) |
|---|---|---|
| Брэст |  | 9 |
| Віцебск |  | 9 |
| Гомель |  | 8 |
| Гродна |  | 8 |
| Мінск |  | 9 |
| Магілёў |  | 7 |

**19.** За 12 г поезд, рухаючыся з аднолькавай скорасцю, праехаў 1000 км. Колькі кіламетраў праедзе гэты поезд за 36 г, калі скорасць яго руху не змяніцца?

**20.** Складзі і рашы задачы.

1



2



**21.** У сталовай за тыдзень зрасходавалі 28 кг масла, пароўну кожны дзень. На колькі дзён хопіць 136 кг масла, калі штодзённы расход не зменіцца?

**22.** Два самалёты адначасова вылецелі з аднаго аэрапорта ў супрацьлеглых напрамках і праз 3 г прызямліліся. Адлегласць паміж імі стала 5100 км. На колькі кіламетраў у гадзіну скорасць аднаго з іх была большай за скорасць другога, калі скорасць першага самалёта была 900 км/г?

**23.** Складзі і рашы задачу. Складзі адваротную задачу.

<table>
<tr><th>Маса адной скрынкі, кг</th><th>Колькасць скрынак, шт.</th><th>Маса ўсіх скрынак, кг</th></tr>
<tr><td>20</td><td rowspan="2">аднолькавая</td><td>160</td></tr>
<tr><td>?</td><td>240</td></tr>
</table>

**24.** Ад пачатку сутак прайшло чвэрць сутак. Колькі цяпер часу?

**25.** Перыметр квадрата 24 см. Знайдзі даўжыню стараны квадрата. Знайдзі плошчу гэтага квадрата.

**26.** Якуб Колас і Янка Купала — беларускія пісьменнікі — нарадзіліся ў 1882 годзе.
У якім стагоддзі яны нарадзіліся? Колькі стагоддзяў прайшло з гэтай даты?



Якуб Колас



Янка Купала

**27.** Шырыня прамавугольніка 7 дм, што складае пятую частку яго даўжыні. Знайдзі перыметр і плошчу гэтага прамавугольніка.

**28.** Чацвёртая частка перыметра квадрата роўная 14 см. Знайдзі перыметр квадрата і даўжыню яго стараны.

**29.** Вылічы плошчы фігур.



**30.** Начарці прамавугольнік, перыметр якога роўны 20 см, а плошча — 24 см$^2$.

**31.** Начарці прамавугольны трохвугольнік, плошча якога ў 2 разы меншая за плошчу прамавугольніка з задачы 30.

## Гэта цікава!

### Што такое абак?



Слова «абак» паходзіць ад лацінскага слова *abakus*, што значыць дошка. Абак — гэта спецыяльная лічыльная дошка, якую выкарыстоўвалі для вылічэнняў у Старажытнай Грэцыі і Старажытным Рыме больш за 2000 гадоў таму назад. Першымі абакамі былі драўляныя дошкі, на якія насыпалі пясок. Для вылічэнняў на пяску праводзілі баразёнкі, што адпавядала пэўным разрадам. У гэтых баразёнках раскладвалі каменьчыкі, якія абазначалі розныя лікі. Пазней абакі пачалі рабіць з каменю, бронзы, каляровага шкла або слановай косці. Для выканання вылічэнняў па спецыяльных прарэзах на гэтай дошцы перасоўваліся каменьчыкі. З дапамогай абакаў у Еўропе рабілі вылічэнні да XVIII стагоддзя.

У Расіі таксама прымянялі абак, які меў другую назву — лічыльнікі. Лічыльнікі адрозніваліся тым, што замест вертыкальных прарэзаў выкарыстоўваліся гарызантальна размешчаныя вяровачкі, а замест каменьчыкаў — костачкі вішань або сліў, нанізаныя на вяровачкі. Пазней лічыльнікі сталі вырабляць з дрэва і металічнага дроту. Першыя лічыльнікі з'явіліся ў Расіі каля 500 гадоў таму назад і выкарыстоўваліся для выканання вылічэнняў да мінулага стагоддзя. У канцы XX стагоддзя на змену лічыльнікам прыйшлі калькулятары.



**Мураўёва, Г. Л.**

М91 Матэматыка : вучэб. дапам. для 4-га кл. устаноў агул. сярэд. адукацыі з беларус. мовай навучання : у 2 ч. / Г. Л. Мураўёва, М. А. Урбан. — Мінск : Нац. ін-т адукацыі, 2014. — Ч. 1. — 128 с. : іл.

ISBN 978-985-559-370-7.

**УДК 51(075.2=161.1)**
**ББК 22.1я71**

Вучэбнае выданне

**Мураўёва** Галіна Леанідаўна
**Урбан** Марыя Анатольеўна

**МАТЭМАТЫКА**

Вучэбны дапаможнік для 4 класа
ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі
з беларускай мовай навучання

У дзвюх частках

Частка 1

Нач. рэдакцыйна-выдавецкага аддзела *Г. І. Бандарэнка*
Рэдактар *Л. Ф. Леўкіна*
Мастакі *Н. У. Кузьмянкова, Ю. М. Галавейка, А. П. Пратасеня*
Камп'ютарная вёрстка *Ю. М. Галавейкі*
Карэктары *К. В. Шобік, Д. Р. Лосік*

Падпісана ў друк 18.04.2014. Фармат 70×90 $^1/_{16}$. Папера афсетная.
Друк афсетны. Ум. друк. арк. 9,36. Ул.-выд. арк. 4,5.
Тыраж 7600 экз. Заказ

Навукова-метадычная ўстанова «Нацыянальны інстытут адукацыі»
Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай
рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў
№ 1/263 ад 02.04.2014. Вул. Караля, 16, 220004, г. Мінск

ААТ «Паліграфкамбінат імя Якуба Коласа».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюджвальніка друкаваных выданняў № 2/3 ад 04.10.2013.
Вул. Каржанеўскага, 20, 220024, г. Мінск

(Назва і нумар школы)

| Навучальны год | Імя і прозвішча вучня | Стан вучэбнага дапаможніка пры атрыманні | Адзнака вучню за карыстанне вучэбным дапаможнікам |
|---|---|---|---|
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |
| 20 / | | | |